Камянецкая цэнтральная раённая бібліятэка імя У. М. Ігнатоўскага
Адзел бібліятэчнага маркетынгу

# Літаратурная карта Камянецкага раёна

## Электроннае выданне

г. Камянец, 2011г.

# Змест:

- ***Уступ***
- ***Постаці мінулага,  лёсам звязаныя з Камянеччынай***

І. Пацей

М. Матушэвіч

М. Карповіч

П. Янкоўскі

Э. Пузына

У. Ігнатоўскі

- ***Спадчына, якой мы ганарымся***

У. Стэльмах

У. Гніламёдаў

В. Жуковіч

- ***У творчай радасці жыцця***

Я. Дашына

Н. Кандрашук

Г. Мусевіч

С. Курылёва

Н. Гарагляд

І. Жытко

- ***Заключэнне***

*Паважаныя сябры!*

*Мы прапануем вам пазнаёміцца з літаратурнай картай Камянецкага раёна. Назва яе гаворыць сама за сябе: тут сабраны матэрыял пра літаратуру і літаратараў нашага краю. “Карта” дае магчымасць убачыць цэласную і поўную карціну літаратурнага жыцця раёна ў разрэзе стагоддзяў, пазнаёміцца з пісьменнікамі Камянеччыны і іх творчасцю, пачынаючы з сярэднявечча і да сённяшняга часу, літаратурнымі мясцінамі.*

*Калі мы згадваем пра Камянец, Камянеччыну, у нашым уяўленні ўзнікае найперш Белавежская пушча, зубрыны статак ды помнік дойлідства глыбокай даўніны – "слуп каменны". Усё разам узятае сведчыць пра старажытнасць нашай культуры. Каменчукі зберагалі, перадаючы з пакалення ў пакаленне і пушчу, і зуброў, і вежу, вядомы і невялічкі, утульны і дагледжаны гарадок на рацэ Лясной.*



*Няўмольна бяжыць час, аддаляючы ад нас даты, падзеі, але мы ўдзячны тым, хто пакінуў пасля сябе добрыя справы. Манах, які ў цеснай келлі старанна выводзіў літару да літары, каб пакінуць продкам сведчанне пра заснаванне Камянца, фактычна быў першым пісьменнікам Камянеччыны. Застаецца толькі шкадаваць, што цяпер мы не ведаем, адкуль ён родам, ці быў прыпушчанскі край яго малой радзімай. Але ён напомніў нам у каторы раз пра тое, што напісанае застаецца, як і зберагаецца навечна ў людской памяці і аўтар, хоць і безыменны.*





Старонка Іпацьеўскага летапісу

# Постаці мінулага, лёсам звязаныя з Камянеччынай





# Іпацій Пацей

*мысляр і пісьменнік, царкоўны і дзяржаўны дзеяч*

**1541 - 1613**

**Іпацій Пацей**

**(1541 - 1613)**

У нацыянальную гісторыю Іпацій (Адам) Пацей увайшоў як царкоўны і дзяржаўны дзеяч, як мысляр і пісьменнік. На працягу некалькіх стагоддзяў яго асоба ў цэнтры ўвагі тэолагаў, даследчыкаў філасофскай думкі, грамадзянскай гісторыі і літаратуразнаўцаў. Гэта неардынарная асоба.

Іпацій Пацей належыць двум народам – беларусам і ўкраінцам. Нарадзіўся ён ў 1541г. у праваслаўнай шляхецкай сям'і ў паселішчы Ражанка Камянецкага павета Падляшскага ваяводства, якое належала бацьку пісьменніка.

Бацька Адама служыў пры двары вялікіх князёў і каралёў, займаючы высокія пасады. Будучаму пісьменніку ішоў дзевяты год, калі памёр бацька. Маці паўторна выйшла замуж, а сына аддала пад апеку Мікалая Радзівіла Чорнага. Адам пачаў жыць і вучыцца пры княскім двары ў Нясвіжы. Перад падлеткам адкрылася бліскучая мажлівасць атрымаць выдатную адукацыю. Там ён скончыў кальвінскую школу, пасля навучаўся ў Кракаўскім універсітэце.

У хуткім часе ён пачынае працаваць сакратаром у свайго апекуна і пераходзіць у пратэстанцкую веру – кальвінізм, якой на той час прытрымліваліся такія ўплывовыя роды Вялікага Княства Літоўскага, як Сапегі, Вішнявіцкія, Хадкевічы, Войны і іншыя.

У 1574г. Іпацій Пацей вяртаецца ў праваслаўе.

Аб яго дзяржаўнай дзейнасці і месцы ў тагачаснай палітыцы краіны сведчаць тыя факты, што імя нашага земляка значыцца ў ліку тых, хто падпісаў Люблінскую унію, а таксама і пад дакументам аб роўнасці веравызнанняў у Рэчы Паспалітай.

У 1592г. пасля смерці жонкі пастрыгаецца ў манахі і прымае імя Іпація. 10 траўня 1593г. стаў епіскапам Уладзімірскім і Берасцейскім. І. Пацей актыўна ўключаецца ў культурна-рэлігійнае жыццё на Беларусі і Украіне. Ён становіцца фундатарам Берасцейскага брацтва, апекуном яго школы. Уваходзіў у кола князя Канстанціна Васіля Астрожскага, прымаў удзел у паседжаннях і працы праваслаўных Сабораў, прыкладаў намаганні да аб'яднання праваслаўя і каталіцтва. Дзейнасць І. Пацея закончылася поспехам. У 1596г. у Брэсце была падпісана унія, якую зацвердзіў кароль. Уладыка пачынае яе ўкараняць у сваёй епархіі, не грэбуючы ніякімі спосабамі. Пры падтрымцы караля Берасцейска-Уладзімірскі ўладыка прызначаецца архімандрытам Кіева-Пячорскай Лаўры, а потым становіцца Кіеўскім мітрапалітам.

І. Пацей надзяляў шмат увагі адукацыі. Спрабаваў ператварыць берасцейскую праваслаўную школу ў духоўную семінарыю, прызначыўшы туды настаўнікам доктара багаслоўя Пятра Аркудзія. Запачаткаваў у 1599г. падрыхтоўку святароў пры Свята-Траецкім манастыры ў Вільні, у 1601г. заснаваў там семінарыю.

З сакавіка 1605 прызнаны адзіным законным кіраўніком Усходняе Царквы ў Рэчы Паспалітай.

У аснове дзейнасці уніяцкага мітрапаліта было імкненне да самастойнасці духоўнага жыцця на беларуска-ўкраінскіх землях. І. Пацей стаяў ля вытокаў уніяцкай адукацыі на Беларусі, шмат зрабіў для развіцця беларускага кнігадрукавання. Уніяцкі мітрапаліт апекаваўся знакамітай друкарняй Мамонічаў у Вільні.

І. Пацей з’яўляецца выдатным беларускім пісьменнікам-публіцыстам. Пісаў па-беларуску і па-польску. Ён дэбютаваў сваім палемічным творам “Унія”. Да літаратурных набыткаў пісьменніка варта аднесці і лісты да Канстанціна Астрожскага, Льва Сапегі і іншых. Другім выдатным яго творам з’яўляецца “Гармонія”. Таленавіты аратар Іпацій Пацей пакінуў вялікую колькасць казанняў, гутарак і павучэнняў у якіх таксама выявіўся яго пісьменніцкі дар. Першае выданне 74 ягоных казанняў было зроблена ў 1674г. на беларускай мове. Пісьменніцкія творы ўладыкі Іпація ўражваюць эрудыцыяй і адукаванасцю іх аўтара.

Для твораў пісьменніка характэрны прастата і яснасць выкладу думак, лагічнасць і адукаванасць выказвання і ў той самы час эмацыйнасць, палемічнасць, яркая вобразнасць. Яго творы характэрызуюцца багаццем інтанацый высокай культурай мовы. У творах пісьменніка суседнічае паэтыка з іроніяй, лагоднасць, памяркоўнасць з сарказмам і акадэмічнай строгасцю.

Памёр наш зямляк у 1613 годзе. Так склалася, што месцам вечнага спачыну І. Пацея стаў Уладзімір-Валынскі.

**Іпацій Пацей** - **аўтар палемічных твораў на старабеларускай і польскай мовах у абарону уніі:**

**«Унія...» (1595), «Справядлівае апісанне ўчынкаў і справы сінодавае» (1597), «Размова берасцяніна з братчыкам» (1604), «Уваскрослы Налівайка» (1607), «Ерасі, невуцтва і палітыка папоў і мяшчан віленскага брацтва», «Гармонія...», «Рэляцыя» (1608), вялікай колькасці прамоў, павучанняў і інш.**

## Літаратура:

Пацей Іпацій // Асветнікі зямлі Беларускай: энцыкл. даведнік / рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш.; маст. У. М. Жук. – Мн.: БелЭн, 2001. – С. 322.

Пацей Іпацій // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / Рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш. – Мн.: БелЭн, 1996. –Т. 12 . – С. 241.

Пацей Іпацій // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 т. / Рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал.рэд.) і інш.; маст. З.Э. Герасімовіч. – 2-е выд. – Мн.: БелЭн, 2007. – Т. 2. – С. 421.

Пацей Іпацій // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. / Рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал.рэд.) і інш.; маст. Э. Э. Жакевіч. – Мн.: БелЭн, 1996. – Т. 5. - С. 454.

Пацей Іпацій // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / Рэдкал.: І.П. Шамякін (гал.рэд) і інш. – Мн.: Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1985. Т. 4.– С. 229.

Іпацій Пацей: царкоўны дзеяч, мысліцель, пісьменнік на пераломе культурна-гістарычных эпох / С. А. Падокшын. — Мн.: Беларуская навука, 2001. — 118 с.

Пацей Іпацій // Літаратурная карта Берасцейшчыны / укл. А. Крэйдзіч.- Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2008.- С. 284-286.

Жыццяпіс Іпацiя Пацея:/ Кішка Л. // Спадчына. - 1988. - №4.

# Марцін Матушэвіч
# (1714 – 1773)

*грамадскі дзеяч Рэчы Паспалітай, пісьменнік-мемуарыст, перакладчык*

**Марцін Матушэвіч**

**(1714 - 1773)**

Прырода надзяліла Марціна Матушэвіча талентам пісьменніка, невычэрпнай энергіяй, добрым веданнем псіхалогіі людзей.

Марцін Матушэвіч нарадзіўся ў Елінскім Бары (цяпер вёска Радасць) у 1714 г. у сям'і шляхціца. Атмасферу, якая панавала паміж сваякамі, цяжка назваць цёплай і сардэчнай. Маці вызначалася ўладарнасцю, жорсткасцю і саслоўнай пыхлівасцю. Дзеля дасягнення сваіх карыслівых метадаў не спынялася ні перад чым.

Марцін Матушэвіч атрымаў добрую адукацыю ў вучэльнях езуітаў спачатку ў Камянцы, затым у Брэсце, Драгічыне і Варшаве. Суровы рэжым гэтых навучальных устаноў фармаваў у юнака стойкасць, гатоўнасць да пераадолення цяжкасцей. Прыродны розум, узбагачаны адукацыяй, музычныя і вакальныя здольнасці, мэтаімкнёнасць, фізічная загартоўка спрыялі таму, што Марцін Матушэвіч паспяхова прасоўваўся па службовай лесвіцы, займаючы хоць не такія высокія, але надзвычай уплывовыя пасады. У 1739 годзе ён займеў у Брэсце пасаду пісара, затым быў брэсцка-літоўскім падстольнікам. Праслужыўшы на гэтай пасадзе больш дзесяці гадоў, становіцца стольнікам у горадзе над Бугам, а затым у 1756 г. – земскім суддзёй.

Поле дзейнасці брэст-літоўскага суддзі і кашталяна было шырокім. Яно ахоплівала Вільню, Наваградак, Пінск, але найчасцей – Брэст і яго ваколіцы: Камянец, Цярэспаль, Высокае, Расну, Чамяры, Чарнаўчыцы, Матыкалы, Воўчын, Трасцяніцу, Мінькавічы, Вярхі і інш.

З Раснай пісьменніка звязвалі не толькі службовыя абавязкі. Марцін тут асабліва часта любіў бываць, будучы шкаляром. Наведваўся ён да бацькі і з сям'ёй. Брэст-Літоўскі суддзя, па яго сведчанні, ажаніўся калі не па каханні, то па сімпатыі да сваёй жонкі, меў вялікую сям'ю. Калі памёр бацька пісьменніка, то пакінуў Марціну ў спадчыну Расну, Войнаўку, Рагачы, Чамяры. Сюды і пераехала сям'я пісьменніка. Тут нарадзіўся сын Тадэвуш, які таксама меў літаратурны талент і вядомы як паэт, перакладчык, публіцыст.

Літаратурная спадчына Марціна Матушэвіча складаецца з мемуараў, перакладаў, вершаў на польскай і лацінскай мовах. Літаратурныя здольнасці ў Марціна выявіліся вельмі рана. Яшчэ дзіцём ён складаў панегірычныя вершы, прысвечаныя ўплывовым асобам. Адметнае месца ў гісторыі літаратуры, грамадскай думкі і грамадзянскай гісторыі належыць мемуарам Марціна Матушэвіча, у якіх выразна выявілася асоба аўтара.

Мемуары Марціна Матушэвіча ахопліваюць 1714-1764гг. і пісаліся на працягу доўгага часу. Польскай грамадскасці яны сталі вядомыя праз тры гады пасля смерці іх аўтара. Цяпер яго мемуары сталі часткова даступныя і беларускамоўнаму чытачу. Часопіс “Спадчына” (1996, №5 і 1997, №№ 1і 2 ) апублікаваў іх ў перакладзе Вацлава Арэжкі пад назовай “Дыяруш майго жыцця”.

Мемуарам Марціна Матушэвіча характэрны выключная шчырасць, імкненне аўтара да справядлівасці і праўдзівасці.

Як прадстаўнік шляхецкага саслоўя, Марцін Матушэвіч расказвае найперш пра сацыяльныя вярхі Вялікага княства Літоўскага. Ён стварыў пераканальныя вобразы магнатаў Міхала і Караля Радзівілаў, Міхала Чартарыйскага, Людвіка Пацея і інш. Сацыяльнае і службовае становішча пісьменніка вымагала ўслаўлення тых, ад каго ён залежыў. Аўтар услаўляе шчодрасць, набожнасць, дабрыню сваіх мецэнатаў. У той самы час іх учынкі, іх патаемныя і ўяўныя намеры выразна сведчаць, што яго патроны вызначаліся самадурствам, эгаізмам, двурушніцтвам, маральнай разбэшчанасцю.

У канцы 60-х гг. Марцін Матушэвіч пакідае службу і стала жыве ў Расне. У гэты перыяд ён займаецца перакладамі ці дакладней перастварэннем сатыраў рымскага паэта Антычнасці Гарацыя. Гэта актывізіравала і яго сатырычную творчасць. Марцін Матушэвіч напісаў тры арыгінальныя “Дадаткі”.

Творчасць нашага земляка з Радасці мае не толькі канкрэтна-гістарычнае, але і агульначалавечае значэнне. З мемуараў пісьменніка вынікае выснова пра трагічны лёс дзяржавы і народа, калі сацыяльныя вярхі ігнаруюць і грэбуюць спрадвечнымі духоўнымі набыткамі, у тым ліку і ў сферы грамадскага ўладкавання, калі няма ў кожным гарманічнага паяднання асабістых і грамадскіх інтарэсаў.

**Марцін Матушэвіч** – аўтар «Успамінаў» (“Wspomnienia”, т. 1-4. Варшава (1876)).

Мемуары «Дыярыюш майго жыцця» перакладзены на беларускую мову і друкаваліся ў часопісе «Спадчына» 1996, №5 і 1997, №№ 1 і 2.

Пераклаў на польскую мову «Сатыры» Гарацыя (1784).

# Літаратура:

Матушэвіч Марцін // Асветнікі зямлі Беларускай: энцыкл. даведнік / [рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш.; маст У. М. Жук]. – Мн.: БелЭн, 2001. – С. 287.

Матушэвіч Марцін // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / Рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш. – Мн.: БелЭн, 1996. – Т. 10 . – С. 208.

Матушэвіч Марцін // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 т. / Рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал.рэд.) і інш.; маст. З. Э. Герасімовіч. – 2-е выд. – Мн.БелЭн, 2007. – Т. 2. – С. 286.

Матушэвіч Марцін // Мысліцелі і асветнікі Беларусі: энцыкл. даведнік / Беларус. энцыкл.; гал. рэд. “Беларус. Энцыкл”: Б. І. Сачанка (гал. рэд.) і інш.; маст. Э. Э. Жакевіч. – Мн.: БелЭн, 1995. – С. 257.

Матушэвіч Марцін // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / Рэдкал.: І. П. Шамякін (гал.рэд) і інш. – Мн.: Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1985. Т. 3 – С. 484.

Рубашевский, Ю. Шляхтич переводил сонеты: [Мартин Матушевич родился недалеко от Каменца. Жил в Бресте. XVIII в.] // Веч. Брест. – 1996. – 1 нояб.

Рубашевский, Ю. Записки брестского каштеляна: [Писатель и общественный деятель М. Матушевич. Род. в д. Ельно под Каменцем в 1714г.] // Заря. - 1989. – 26 окт.



**Міхал Карповіч**

*палітычны і царкоўны дзеяч, багаслоў-асветнік*

1744 - 1803

**Міхал Карповіч**

**(1744 - 1803)**

Жыццё і дзсйнасць Міхала Карповіча прыпадае на другую палову XVIII ст., на час бурлівых палітычных падзей, якія прывялі да страты Вялікім княствам Літоўскім і Рэччу Паспалітай сваёй дзяржаўнасці. У гэтых падзеях прымаў непасрэдны ўдзел Міхал Карповіч. Ён нарадзіўся ў г. Камянцы ў 1744 г. у дробнашляхецкай сям'і. Дзіцём яго аддалі на вучобу ў Берасцейскую езуіцкую калегію. Гэтая навучальная ўстанова доўгі час была цэнтрам навучання і адукацыі ў краі. У сямігадовым узросце хлопчык з Камянца пераступіў парог гэтай навучальнай установы і пакінуў яе сцены семнаццацігадовым юнаком. Тут ён атрымаў бліскучую адукацыю, тут сфармаваліся яго погляды, тут акрэслілася поле дзейнасці, якому прысвяціў свае сілы і талент.

Пасля заканчэння навучання ў Берасці юнак падаецца ў Варшаву, уступае ў аб'яднанне Крыжа Місіянерскага. У час навучання выявіў выключныя аратарскія здольнасці ў прамаўленні казанняў. Нашаму земляку дазваляюць праводзіць казанні ў якасці клірыка ў касцёле Святога Крыжа (1766г.), а ўжо праз год Міхал Карповіч змог заняць пасаду прафесара філасофіі ў Варшаўскай духоўнай семінарыі. Чатыры гады малады прафесар быў звязаны з гэтай навучальнай установай, у якой шліфаваўся яго талент прамоўцы. І ў 1771 г. пераехаў у Кракаў і там выкладаў багаслоўе.

У 1772г. адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай. Прафесар з Камянца пачынае выкладаць царкоўную гісторыю і багаслоўе ў Віленскай епархіяльнай семінарыі (1772 - 1774). Гэта ўжо быў чалавек з выразнымі дэмакратычнымі ідэаламі і цвёрдымі жыццёвымі прынцыпамі. Міхал Карповіч з'яўляецца шчырым прыхільнікам французскіх асветнікаў і прапагандыстам іхніх ідэяў. Ён выступае палкім абаронцам прыгоннага сялянства і бясстрашным абвінаваўцам шляхецка-магнацкай тыраніі.

Па вяртанні ў Вільню Міхал Карповіч актыўна ўключаецца ў грамадска-палітычную дзейнасць. У 1774г. ён выбіраецца дэлегатам правінцыйнага канвента ў Варшаве, які акрэсліваў падыходы да стварэння Канстытуцыі Рэчы Паспалітай.

Літаратурная творчасць Міхала Карповіча была скіравана на актывізацыю патрыятычных пачуццяў сучаснікаў, на іх маральнае ўдасканаленне.

Славу Міхалу Карповічу як пісьменніку прынеслі трыбунальскія і юбілейныя казанні, якія ён пачаў прамаўляць у Гародні ў рэзідэнцыі караля з 1775г. і аж да 1784 года. Яго казанні былі апублікаваны пад назовай “Грамадскія пропаведзі", ў іх раскрываліся не тэалагічныя праблемы, а дзяржаўнае ўладкаванне, лёс Айчыны, набліжэнне яе да дзяржаўнай катастрофы. Штогадовай была яго пропаведзь "Аб любові да Айчыны". Ён выступаў у абарону прыгонных, дабіваўся замены паншчыны чыншам, спрыяў адкрыццю парафіяльных школаў. Пафас большасці казаннў пісьменніка з Камянца - пратэст супраць бяспраўя і беспарадкаў, свавол і амаральнасці сацыяльных вярхоў.

Казанні Міхала Карповіча мелі не толькі сваіх прыхільнікаў. Яны не прымаліся рэакцыйнай часткай шляхты і кліру. Выдатнага прамоўцу і патрыёта абвінавачвалі ў варожасці да рэлігіі. Абарону і падтрымку ён заўсёды знаходзіў у біскупа Масальскага і нават у самога караля. Яны высока цанілі талент нашага земляка, яго патрыятычную дзейнасць. За асобыя заслугі ў прапагандзе духоўных каштоўнасцяў яму былі нададзены званні архідыякана Смаленскага, каноніка Пазнанскага. Кароль узнагародзіў Міхала Карповіча медалём.

У 1783г. Міхал Карповіч пачаў працаваць прафесарам тэалогіі ў Галоўнай літоўскай школе Вільні. Свае казанні прафесар вымушаны быў даваць для азнаямлення каралю, якія тым былі ацэнены надзвычай высока. Кароль нават выдаў прывілей на іх друкаванне.

Міхал Карповіч вітаў Канстытуцыю ад 3 траўня 1791 года, верыў, што яе прынцыпы зліквідуюць магнацкую і шляхецкую анархію, будуць спрыяць палітычнаму і эканамічнаму ўмацаванню дзяржавы. Асветнік і рэлігійна-палітычны дзеяч XVIII ст. з Камянца належаў да ліку тых, у каго словы не разыходзяцца са справамі. Калі ўспыхнула паўстанне пад кіраўніцтвам другога нашага земляка Тадэвуша Касцюшкі, у яго шэрагі ў 1794 г. стаў і Міхал Карповіч. Ён быў аднадумцам кіраўніка змагання за аднаўленне дзяржаўнасці краіны ў межах да 1772г., па сялянскім пытанні, уваходзіў у паўстанцкі ўрад.

Расейскія ўлады не маглі дараваць Міхалу Карповічу яго патрыятычную дзейнасць. Быў выдадзены загад аб яго арышце. Нашаму земляку ўдалося патаемна перапрaвіцца ў Варшаву, а адтуль - у свае Грыжашкі. Пазней яму было вернута прафесарскае званне. Нягледзячы на свае сціплыя заробкі, заняўся рамонтам мясцовага касцёла, арганізаваў капітулу, заснаваў духоўную семінарыю, у якой сам выкладаў. Працаваў нястомна і з клопатам пра будучыню радзімы. Міхал Карповіч памёр у 1803 г. у Баржніках і пахаваны ў Віграх.

**Міхал Карповіч** - аўтар твораў «Казанне на Праабражэнне» і «Казанне на Успенне Багародзіцы» (1615), «Казанне на пахаванне князя В. В. Галіцына» (1619), Казанне ў нядзелю перад Раством Хрыстовым (1619), прадмова да кнігі Фікарыя Святагорца «Вертаград душэўны» (1620) і інш.

# Літаратура:

Карповіч Міхаіл Францішак // Асветнікі зямлі Беларускай: энцыкл. даведнік / [рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш.; маст У.М. Жук]. – Мн.: БелЭн, 2001. – С. 211.

Карповіч Міхаіл Францішак // Вялікае княства Літоускае: энцыклапедыя: у 2 т. / Рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал.рэд.) і інш.; маст. З.Э. Герасімовіч. – 2-е выд. – Мн.: БелЭн, 2007. – Т. 2. – С. 55.

Карповіч Міхаіл Францішак // Мысліцелі і асветнікі Беларусі: энцыкл. даведнік / Беларус. энцыкл.; гал. рэд. “Беларус. энцыкл”: Б.І. Сачанка (гал. рэд.) і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. – Мн.: БелЭн, 1995. – С. 224.

Карповіч Міхаіл Францішак // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. / Рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал.рэд.) і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. – Мн.: БелЭн, 1996. – Т. 4. - С. 126.

Міхал Карповіч // Літаратурная карта Берасцейшчыны / укл. А. Крэйдзіч.- Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2008.- С. 289 - 291.



# Плакід Янкоўскі

*беларускі і польскі пісьменнік*

1810 - 1872

# Плакід Янкоўскі
# (1810 – 1872)

Плакід Янкоўскі паходзіў з беднай патрыятычна настроенай шляхецкай уніяцкай сям'і. Яго бацька прымаў удзел у паўстанні 1794 г. у атрадах Т. Касцюшкі. Пазней прыняў духоўны сан, атрымаў ад касцёла прыход у вёсцы Вайская. Тут у 1810г. і нарадзіўся пісьменнік.

Плакід Янкоўскі атрымаў добрую адукацыю. З 1818 па 1826гг. вучыўся спачатку ў Свіслацкай гімназіі, затым у Берасцейскай школе базыльянаў. У гімназіі панаваў дух патрыятызму і вальналюбства. Яго навучэнцы мелі мажлівасць быць добра дасведчанымі ў літаратуры і мастацтве. Некаторы час Свіслацкай гімназіяй апекаваўся Францішак Карпінскі і перадаў у дар яе навучэнцам сваю багатую бібліятэку. Тут наш зямляк зацікавіўся літаратурай.

У 1826г. Плакід Янкоўскі становіцца студэнтам тэалагічнага аддзялення Віленскага універсітэта. Гады навучання Плакіда Янкоўскага ва універсітэце адыгралі выключную ролю ў яго літаратурным лёсе. Пісьменнік аваладаў некаторымі замежнымі мовамі, шмат чытаў, у тым ліку і еўрапейскіх пісьменнікаў

Пасля заканчэння універсітэта і абароны на званне магістра багаслоўя (1830г.) атрымаў пасаду прафесара ў Жыровіцкай уніяцкай духоўнай семінарыі, дзе выкладаў Святое пісанне і лацінскую мову. Паўстанне 1830-1831гг., эпідэмія халеры прымусілі Плакіда Янкоўскага пакінуцьЖыровічы і вярнуцца ў Вільню. Некаторы час працаваў тут хатнім настаўнікам. Праз год,  аднак, вярнуўся ў Жыровічы і пачаў рыхтавацца да здачы экзамена на доктара тэалогіі. Іспыты паспяхова вытрымаў у Рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі. Кіраўніцтва праваслаўнай царквы не прызнала дыплом Плакіда Янкоўскага і ва ўсіх дакументах не пазначала яго навуковай ступені.

У 1833г. наш зямляк узяў шлюб з Геленай Тупальскай, дачкой прэзідэнта Літоўскай кансісторыі. Гэтае сваяцтва адкрывала Плакіду Янкоўскаму перспектыву для кар'еры ва уніяцкай царкве.

У 1837 г. малады доктар тэалогіі з Вайской згаджаецца памяняць веру. Ён быў у ліку тых, хто падпісаў акт аб скасаванні уніі (1839г.). Гэтая пазіцыя нашага земляка была ўхвалена і заахвочана расійскімі ўладамі і праваслаўнай царквой новымі пасадамі. Ён быў адзначаны таксама залатым наперсным крыжам і узнагароджаны ордэнам святой Ганны.

На 1830гг. прыпадае пачатак літаратурнай дзейнасці Плакіда Янкоўскага. Ёе выступае ў творах розных жанраў, піша вершы, байкі, апавяданні, аповесці, п’есы, анекдоты і займаецца перакладамі.

У сваіх вершах і байках наш зямляк уздымаў спрадвечныя агульначалавечыя праблемы шчасця, сэнсу жыцця, чалавека і яго сутнасці ("Шчасце”, “Шчыпцы і свечка", "Наіўнасць" і інш.). Так, для аўтара шчасце – катэгорыя прывідная, недасяжная:

*Кожны з нас кліча шчасце і пра шчасце марыць,*
*Калі ж сустракаем яго на жыццёвых абшарах,*
*Утрымаць не можам. І потым да зморы*
*Зацята шукаем мінулае "учора".*
*І цешым сябе недасяжным чароўным "заўтра",*
*Якое мо прынясе незабыўнае свята.*
(Пераклад З. Дудзюк)

Найбольшая творчая актыўнасць Плакіда  Янкоўскага прыпадае на 1874гг. Гэтаму спрыяла тая акалічнасць, што ў яго наладзіліся добрыя кантакты з такімі пісьменнікамі, як І. Шыдлоўскі, І. Ходзька, К. Тышкевіч, Ю. Крашэўскі і інш. Да гэтага перыяду належыць задума выдаць часопіс "Ліцвіны" (1842г.), каб у ім змяшчаць творы, прысвечаныя беларускім тыпам. На жаль, яна не знайшла падтрымкі сярод іншых польскамоўных пісьменнікаў Беларусі.

Плённы ўплыў на пісьменніка з Камянеччыны мела сяброўства з Ю. Крашэўскім. Яны не толькі актыўна ліставаліся, але і сумесна напісалі "Складзеную аповесць". Адна за адной выходзяць кнігі празаічных твораў Плакіда Янкоўскага: "Засценак"(1841),"Хвіля"(1842), "Апавяданні" (1843), "Універсітэцкія ўспаміны" (1849) і інш.

У сваіх творах ён апісвае незвычайныя падзеі, якія адбываюцца з яго героямі. Яны існуюць у нейкім ірэальным свеце, у снах, уступаюць у стасункі з прывідамі. У напісаным творцам даецца зрэз тагачаснага грамадскага жыцця. Шляхта ў паказе П. Янкоўскага не можа адыгрываць якую б там ні было грамадскую ролю. Яна дэградавала разумова і маральна.

Матэрыяльнае становішча Плакіда Янкоўскага год ад году станавілася ўсё больш цяжкім. Расла сям'я. У яго гадавалася ўжо пяцёра дзяцей. Пісьменнік вяртаецца ў Вільню і пачынае працаваць праваслаўным святаром у царкве святога Мікалая, аднак надоўга тут не затрымліваецца і праз два гады ў 1847г. зноў вяртаецца ў правінцыю. На гэты раз святаром ў вёску Белавічы Івацэвіцкага раёна. Каб зарабіць лішнюю капейку, вучыць яшчэ і мясцовых дзяцей. Белавіцкія ўражанні Плакіда Янкоўскага знайшлі сваё адлюстраванне ў апавяданні "Ніхто, як Бог".

Хоць Плакід Янкоўскі сумленна выконваў свае абавязкі праваслаўнага святара, аднак выразна адчуваў, што даверу да яго з боку свецкіх і духоўных уладаў няма. Таму і паспяшаўся на пенсію (1858 г), купіў у Жыровічах дом і тут дажыў апошнія гады свайго жыцця. Пасля задушэння паўстання 1863-1864гг. творчая актыўнасць Плакіда Янкоўскага згасае. Ён перастае пісаць мастацкія творы, выступае галоўным чынам у жанры публіцыстыкі на рускай мове ў "Литовских эпархиальных ведомостях" і "Виленским вестнику". Памёр у 1872г. у Жыровічах у поўнай ізаляцыі ад людзей і свету. Творчасць Плакіда Янкоўскага супярэчлівая, аднак бясспрэчным з'яўляецца факт, што ён належыў да польскамоўных беларускіх пісьменнікаў. Яму ніколі не былі чужымі Беларусь і яе народ.

**Плакід Янкоўскі** - аўтар кніг прозы «Засценак» (1841), «Хвіля» (1842), «Апавяданні» (1843), «Універсітэцкія успаміны» (1849), «Адась» (1856), «Крыніцы», «Фанабэрыя пана старосты Канёўскага» (1873), камедыі «Прадчуванне» (1842), нататкаў «Пра Ігната Шыдлоўскага» (1898) і інш.

## Літаратура:


Янкоўскі Плакід // Асветнікі зямлі Беларускай: энцыкл. даведнік / [рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш.; маст У. М. Жук]. – Мн.: БелЭн, 2001. – С. 322.

Янкоўскі Плакід // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / Рэдкал.: Г. П.Пашкоў і інш. – Мн.: БелЭн, 1996. – Т. 18 . – С. 272.

Янкоўскі Плакід // Мысліцелі і асветнікі Беларусі: энцыкл. даведнік / Беларус. энцыкл.; гал. рэд. "Беларус. Энцыкл": Б. І. Сачанка (гал. рэд.) і інш.; маст. Э. Э. Жакевіч. – Мн.: БелЭн, 1995. –С.609.

Янкоўскі Плакід // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / Рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд) і інш. – Мн.: Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1985. Т. 5 .– С. 687.

Ролич, О. Священник, профессор, писатель, переводчик… : [О известном церковном общественном деятеле, писателе, публицисте Плакиде Янковском ] // Заря. – 2011.- 5 мая.- С.20.

Кісялёў, У. Дыялема Плакіда Янкоўскага [факты аб жыцці і творчасці беларускага і польскага пісьменніка Плакіда Янкоўскага] // Культура. – 2010.- 30 кастр. – С.22.

20 верасня – 200 гадоў з Дня нараджэння Плакіда Янкоўскага (1810-1872), беларускага і польскага пісьменніка, публіціста, педагога, царкоўнага дзеяча// Новыя кнігі. – 2010 .- №5. – С. 26.

Мороз, В. Вясковая зорка каханай Літвы: [Да 195 – годдзя з дня нараджэння славутага земляка-святара і пісьменніка П. Янкоўскага] // Веч. Брест . – 2005. – 21 сент.

Мусевіч, Г. Свяшчэннік, пісьменнік з Вайской : [ Пра Плакіда Гаўрылавіча Янкоўскага] // Нав. Камянеччыны. – 2005. – 12 студз.

# Эдвард Пузына
# (1714 – 1773)

*гісторык і пісьменнік*

**Эдвард Пузына**

**(1878-1949)**

Недалёка ад Воўчына размяшчаўся маёнтак Грымяча, уладальнікам якога ў другой палавіне XIX стагоддзя быў Юзаф Пузына, прадстаўнік аднаго з старажытных родаў Вялікага княства Літоўскага. Сядзіба ўражвала сваім харawством. Невялікі, але вытрыманы ў класічных формах дом акаляў цудоўны парк. Тут у 1878г. нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Эдвардам. Ен стане вядомым гісторыкам і пісьменнікам. У Грымячай прайшлі дзіцячыя гады Эдварда Пузыны. Сюды спяшаўся на канікулы, калі вучыўся ў Варшаве, дзе атрымаў сярэднюю адукацыю, закончыўшы гімназію ў 1898г. На гэты час Эдуард Пузына быў ужо ўладальнікам Грымячай, якая яму адышла пасля бацькавай смерці.

На перыяд навучання ў гімназіі прыпадае цікавасць Эдуарда Пузыны да гісторыі і літаратуры. Для паглыблення сваіх ведаў у гэтых галінах культуры ён паехаў у Швейцарыю. Тут прайшло каля дваццаці гадоў жыцця нашага земляка з Грымячай. Спачатку вучыўся ў Фрынбурскім універсітэце, дзе атрымаў вучоную ступень доктара філасофіі. У Швейцарыі Эдвард Пузына ажаніўся. У яго гадавалася чацвёра дзяцей.

Навуковыя зацікаўленні нашага земляка звязаны з геральдыкай. Ён даследаваў паходжанне і палітычную ролю князёў Вялікага княства Літоўскага. На пачатак XX ст. прыпадае і актыўная літаратурная творчасць пісьменніка з Грымячай. Яго першыя вершы былі апублікаваны ў год заканчэння гімназіі (1898) у розных варшаўскіх выданнях. Пазней звяртаўся і да прозы. У 1905г. выйшаў першы зборнік Эдварда Пузыны "Агні", у якім дамінавалі тыповыя праблемы, характэрныя для юнацтва.

У час Першай сусветнай вайны, застаючыся ў Швейцарыі, працаваў у Цэнтральным польскім агенцтве ў Лазанне, а пазней - у Польскім Народным Камітэце. Вайна актывізавала творчую дзейнасць пісьменніка з Грымячай. Выходзяць яго творы: "Паэма сённяшняга дня", “З пылам брацкая кроў", "Кракаўскае вяселле" і інш. Іх пафас патрыятычны. Эдвард Пузына прадоўжыў класічныя традыцыі польскай рамантычнай паэзіі. З сучаснікаў яму асабліва быў блізкім Станіслаў Выспянскі. Да яго "Вызваленне" непасрэдна далучаецца твор нашага земляка "Конрад» (Народная трагедыя ў трох актах).

У 1919г. Эдвард Пузына вяртаецца на радзіму, пасяляецца ў Варшаве і працуе ў Міністэрстве замежных спраў. Кар'ера чыноўніка яго не задавальняе. Пісьменнік пачынае выдаваць напоўафіцыйны часопіс "Messages Polonais” (1925), з'яўляючыся яго рэдактарам. Вяртаецца да навуковай дзейнасці, становіцца членам рэдкалегіі "Геральдычнага штомесячніка", працягвае працу, звязаную з вывучэннем гісторыі Вялікага княства Літоўскага. У 1922г. апублікаваў у Варшаве том сваіх вершаў "Па дарозе", у які ўвайшлі творы, напісаныя ў 1895-1921гг. У гэтай кнізе асаблівай лірычнасцю, незвычайнай паэтычнасцю вылучаецца цыкл "З літоўскіх струнаў", у аснове якога ўражанні паэта, звязаныя з Грымячай. Яе наваколлем, са звычаямі краю, з блізкімі і дарагімі аўтару людзьмі.

У пачатку 1930-х гг. Эдвард Пузына вырашае прадаць маёнтак у Грымячай з усімі землямі. У 1933г. ён  звальняецца з працы і пераязджае ў Вялікую Бераставіцу на Гарадзеншчыне і цалкам аддаецца навуковай і літаратурнай дзейнасці: пісаў всршы і прозу, шмат перакладаў, асабліва французскіх  аўтараў, а таксама п'есы  Г. Ібсена.

Другая сусветная вайна застала пісьменніка ў Варшаве. Тут ён перажыў акупацыю, і толькі пасля паўстання 1944г. вывезены са сталіцы ў Чанстахоў. З 1945г. узначальваў аддзел культуры ў гарадскім мясцовым магістраце. Перажытае ў час акупацыі патрабавала выйсця. Эдвард Пузына ўзяўся за  напісанне мемуараў, прысвечаных Марыі Радзевіч, фактычна сваёй зямлячцы. "Мае ўспаміны пра Радзевіч" была апошняй у творчай яго біяграфіі. З гэтай пісьменніцай Эдвард Пузына пазнаёміўся ў Варшаве ў 1942 годзе.

Наш зямляк памёр у Чанхстахове, там і пахаваны.

**Эдвард Пузына** - **аўтар лірычных і сатырычных вершаў (зб. «Даўней» (1905), патрыятычных паэм, гімнаў, паэтычных драм (зб. «Па дарозе (1922»), аповесцей.**

**Аўтар працы «Вялікае княства літоўскае да Міндоўга».**

## Літаратура:


Эдвард Пузына //Беларуская энцыклапедыя: У 18т. Т13: Праміле – Рэлаксін/ Рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш.- Мн.: БелЭн, 2001.- 576 с.: іл.

Эдвард Пузына //Літаратурная карта Берасцейшчыны/ укл. А. Крэйдзіч.- Брэст: ААТ «Брэсцкая Друкарня», 2008.- с. 294-295.



**Усевалад Ігнатоўскі**

*беларускі гісторык, грамадскі і палітычны дзеяч*

1881 - 1931

## Усевалад Ігнатоўскі
## (1881-1931)

Выдатны вучоны-гісторык, грамадска-палітычны дзеяч, педагог і асветнік, арганізатар навукі і адукацыі, першы прэзідэнт АН Беларусі Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі быў яшчэ і літаратурным крытыкам. Ён нарадзіўся 19 красавіка 1881г. у в. Такары Брэсцкага уезда Гродзенскай губерніі, паблізу Высокага (зараз Камянецкі раён Брэсцкай вобласці) ў сям'і вясковага настаўніка Макара Ігнатоўскага і Соф'і з роду Смольскіх. Бацька яго, Макар Іванавіч, на той час быў адукаваным чалавекам, доўгі час настаўнічаў у Такарскім народным вучылішчы, у далейшым прысвяціў сваё жыццё царкоўнай службе.

Усевалад быў старэйшым з трох дзяцей у сям'і. Пад уплывам бацькі Усевалад Ігнатоўскі паступіў вучыцца ў Віленскае духоўнае вучылішча, пасля яго заканчэння прадоўжыў вучобу ў Літоўскай духоўнай семінарыі. Але пасля пятага класа яго выключылі за ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях моладзі.

Каб атрымаць вышэйшую адукацыю, паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. У час вучобы юнак з галавой акунуўся ў бурлівае жыццё, зрабіў свой першы палітычны выбар, уступіўшы ў партыю эсераў.

У 1905г. Усевалад Ігнатоўскі ўдзельнічаў у студэнцкіх хваляваннях у Пецярбургу, быў арыштаваны і высланы з сталіцы Расійскай Імперыі на радзіму. У канцы 1906г. яму было дазволена вярнуцца ў Пецярбург і наведваць лекцыі, але праз кароткі час У. Ігнатоўскі быў выключаны з універсітэта і высланы на поўнач, у Аланецкую губернію ў горад Ладзейнае Поле. Тут ён знайшоў сваё асабістае шчасце: ажаніўся на ўраджэнцы Саратаўскай губерніі Марыі Севасцьянаўне Арэф'евай, якая знаходзілася ў палітычнай ссылцы.

Пасля адбыцця ссылкі Усеваладу Ігнатоўскаму было забаронена жыць у пяці буйнейшых гарадах Расіі, вядома ж быў закрыты шлях і ў сцены ўніверсітэтаў гэтых гарадоў. Але неадольная прага да ведаў, неверагодная настойлівасць і працавітасць дазволілі яму ў 1908г. паступіць у Юр'еўскі (зараз Тартускі) універсітэт, які паспяхова скончыў у 1911г. і атрымаў добрую падрыхтоўку як гісторык. Пасля заканчэння ўніверсітэта працаваў у Вільні ў прыватнай гімназіі.

З 1914г. У. М. Ігнатоўскі выкладаў гісторыю і геаграфію ў Мінскім настаўніцкім інстытуце. Быў членам, пасля - старшынёй педагагічнага савета. З восені 1915г. і да восені 1918г. у сувязі з тым, што Беларусь стала арэнай баёў Першай сусветнай вайны, Мінскі настаўніцкі інстытут быў эвакуіраваны ў Яраслаўль. Пры інстытуце была створана культурна-асветніцкая арганізацыя “Наш край”, якая прапагандавала ідэі нацыянальнага адраджэння Беларусі. У маі 1917г. яна рэарганізавана ў “Маладую Беларусь”.

Па вяртанні з эвакуацыі ў 1918г. У. М. Ігнатоўскі актыўна працаваў найперш як вучоны-гісторык, аднак не чужымі яму былі заняткі і літаратуразнаўствам. Наш зямляк з Такароў займаў відныя пасады ў дзяржаўных і партыйных установах: быў наркамам земляробства, затым наркамам асветы, распрацоўшчыкам праграммы беларусізацыі. З 1926 г. Ігнатоўскі – старшыня Інбелкульту, з 1929г. – акадэмік і першы прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук, першы дырэктар інстытута гісторыі.

Пры ўсей службовай занятасці Ігнатоўскі знаходзіў час для распрацоўкі тэарэтычных праблем гістарычнай навукі, даследавання гісторыі Беларусі. Ён аўтар мноства артыкулаў, якія друкаваліся на старонках перыядычных выданняў, 40 навуковых і навукова-публіцыстычных прац, у т.л. 8 манаграфій. Сярод іх: “Кароткі нарыс гісторыі Беларусі” (1919г.), “1863 год на Беларусі: Нарыс падзей”(1923г.), “Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецця” (1923г.), “Матывы лірыкі беларускага песняра М. Чарота” (1922г.) і інш. Працы У. Ігнатоўскага – моцны падмурак беларускай гістарычнай навукі.

У пачатку 30-х гг. XX ст. абвастрылася ідэйна-палітычная барацьба. Вострай крытыцы стала падвяргацца і дзейнасць Акадэміі навук у сувязі з разгорнутай у рэспубліцы барацьбой з “беларускім нацыянал-дэмакратызмам”.

А ў кастрычніку 1930г. на пленуме ЦК КП(б)Б У. М. Ігнатоўскі быў абвінавачаны ў нацыянал-апартунізме, яго выключылі з Камуністычнай партыі і пачалі вызываць на допыты ў ДПУ. Не бачачы магчымасці даказаць у тых умовах неабаснаванасці і абсурднасці прад’яўленных абвінавачанняў, каб не здрадзіць сабе і свайму народу 4 лютага 1931г. Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі скончыў жыццё самагубствам. Так яго чалавечае сумленне пратэставала супраць змрочнай эпохі страху, чорнага недаверу, што насоўвалася на краіну. Сваё жыццё ён палажыў на алтар дзеля любай Беларусі і яе народа.

Доўгія 60-год імя У. Ігнатоўскага было выкраслена з гісторыі Беларусі, яго дзейнасць і спадчына замоўчваліся, а навуковыя працы знаходзіліся пад забаронай. І толькі ў 1990г. імя знакамітага гісторыка, вучонага Усевалада Макаравіча вярнулася да нас. Ён пасмяротна адноўлены ў партыі, рэабілітаваны палітычна. За апошнія гады многа зроблена для вывучэння навуковай спадчыны У. Ігнатоўскага, яго палітычнай і грамадскай дзейнасці. У знак павагі і ўдзячнасці на былым будынку Інбелткульта на вуліцы Рэвалюцыйнай, 15, дзе ён працаваў і адкуль бярэ пачатак АН і на браме Свята-Міхайлаўскай царквы ў вёсцы Такары ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі, на Вайсковых могілках у Мінску – помнік У. М. Ігнатоўскаму, да яго юбілеяў праходзяць навукова-асветніцкія чытанні, імем У. М. Ігнатоўскага названы: вуліца ў г. Мінску, цэнтральная раённая бібліятэка ў г. Камянцы, у бібліятэках і школах раёна сабраны багаты даведачны матэрыял аб ім.

Удзячныя землякі ўшанавалі памяць свайго выдатнага сына. На яго малой радзіме ў вёсцы Такары ўстаноўлены Памятны знак, у яго гонар пасаджана рабінавая алея. Кожны год ў дзень нараджэння да Памятнага знака Усеваладу Ігнатоўскаму ўскладаюцца кветкі, школьнікі чытаюць вершы, спяваюць песні на роднай беларускай мове, якую ён з любоўю адраджаў і нёс у народ.

У. М. Ігнатоўскі – найперш вучоны-гісторык. Яго ўклад у развіццё гэтай галіны навукі цяжка пераацаніць, бо ён належыць да ліку першапраходцаў. Як гісторык У. М. Ігнатоўскі асэнсоўваў і пытанні развіцця культуры, у тым ліку і літаратуры. Так у “Кароткай гісторыі Беларусі” аналізуецца творчасць В. І. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча і інш. Разам з тым пяру Ігнатоўскага належаць звыш дзесяці прац, прысвечаных праблемам літаратуры. Найбольш значнымі сярод іх з’яўляюцца “Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага жыцця” і “Матывы лірыкі беларускага песняра Міхася Чарота”. У. М. Ігнатоўскі адгукаўся на творчасць Я. Коласа, пісьменнікаў-маладнякоўцаў, напісаў пасляслоўе да паэмы Міхася Чарота “Босыя на вогнішчы” і прадмову да зборніка апавяданняў Леапольда Родзевіча, асэнсоўваў матывы лірыкі Я. Журбы. Паказальна, што ацэнка творчасці пісьменнікаў У. М. Ігнатоўскім вялася ў асноўным не з партыйна-класавых, а з агульначалавечых пазіцый.

# **Усевалад Ігнатоўскі -** аўтар прац:

**1919**

1. **Кароткі нарыс гісторыі Беларусі: лекцыі, чытаныя настаўнікам пачатковых школ Меншчыны / Беларус. пед інст. — Менск, друк. Я. Грынблата, 1919. — 127 с.**
2. **Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. — Вільня: вы-дав. У. Знамяроўскага, 1919. — 112 с. На вокл.: Выд. П.**
3. **Кароткі нарыс гісторыі Беларусі: Лекцыі чытаныя на курсах беларусазнаўства. Выд. 2-е. — Менск: Дзяржвыд. Беларусі, 1919. — 126 с. На вокл.: Выд. 3-е.**
4. **Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Выд. 4-е. Перароб. — Менск: Дзяржвыд. Беларусі, 1926. — 176 с, карт. (і асоб. л.).**
5. **Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Выд. 4-е. Папр. — Вільня: Выд. У. Знамяроўскага, 1927. — 116 с.**
6. **Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Выд. 5-е. — Мн.: Беларусь, 1991. - 190 с.**
7. **Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі: Лекцыі, чытаныя для студэнтаў Мен. пед. інст. у г. Яраслаўлі ў 1917—1918 року. Навук.-літ. аддзел Камісарыяту нар. асветы Беларусі. — Менск, 1919. — 80 с.**

**1921**

**8. Школа н учнтельство Ммнска в пернод Белополь-ской оккупацнп // Школа н культура Советской Белорусии. — 1921. — № 1—2. — Соавт. А. Сташевскнй.**

**9. Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі // Вольны сцяг. — 1921. — № 1.**

**10. Сучасныя матывы беларускай лірыкі: Янка Журба // Вестнмк Народного коммссармата просвешення ССРБ. -1921. - № 2.**

**11. Наша рэвалюцыйная гадавіна // Звезда. — 1921. -7 нояб.**

**12. Народная асвета на Беларусі // Савецкая Беларусь. — 1921. — 18 снеж.**

**1922**

**13. Матывы лірыкі беларускага песняра М. Чарота. — Менск: Дзяржвыд. Беларусі, 1922. — 60 с.**

**14. Сучасная вялікая рэвалюцыя і нацыянальнае пытанне // Полымя. — 1922. — № 1.**

**15. Беларускае культурна-нацыянальнае пытанне // Вестннк Народного коммссарната просвешення ССРБ. — 1922. — № 2, 3; То же. Маладняк. — 1922. — № 2, 3, 4.**

**16. Добрый путь // Звезда. — 1922. — 14 мая.**

**1923**

**17. Бальшавіпкім шляхам // Маладняк. — 1923. — № 1.**

**18. З гісторыі асвсты на Бсларусі ў пачатку XIX сталец-ця // Полымя. — 1923. — № 7—8.**

**19. Няхай нашы спевы далятуць да іх // Красная смена. — 1923. — 7 ноября.**

**20. Будуць несціся вольные спевы // Юный пахарь. — 9 ноября.**

**1924**

**21. Вялікі Кастрычнік на Беларусі (Х.1917-П/УП.1920) // Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі культурнага і рэвалюцыйнага руху. Пад рэд. А. Сташэўскага, З. Жылуновіча, У. Ігнатоўскага, з дап. А. Смоліча, С. Некрашэвіча, Я. Пятровіча. — Менск: Выд. ЦВК БССР, 1924. — 321 с, іл., карт.**

**22. Камуністычная партыя Беларусі і беларускае пытанне// Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі культурнага і рэвалюцыйнага руху. Пад рэд. А. Сташэўскага, З. Жылуновіча, У Ігнатоўскага, з дап. А. Смоліча, С. Некрашэвіча, Я. Пятровіча. - Менск: Выд. ЦВК БССР, 1924. - 321 с, іл., карт.**

**23. Белоруссня. Террмторня, населенне, экономнка, важнейшне моменты нсторнн. — Мннск: Белтрестпечать, 1924. - 52 с**

**24. Белорусшя. Террнтормя, населенме, экономмка, важ-нейшме моменты мсторнм. Нзд. 2-е. — Ммнск: Госмздат Белоруссмм, 1924. — 32 с.**

**25. Белорусская культура // Звезда. — 1924. — 12 марта**

**26. Шестая годовшнна Советской Белоруссни // Нзвес-тня. — 1924. — 31 декабря.**

**1925**

**27. Псторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецця. — Менск: Дзяржвыд. Беларусі, 1925. — 251 с, іл.**

**28. Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецця. Выд. 2-е, стэрыатып. — Менск: Дзяржвыд. Беларусі, 1926. - 251 с, іл.**

**29. Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецця. Выд. 3-е, стэрыатып. — Менск: Дзяржвыд. Беларусі, 1928. — 251 с, іл.**

**30. Пасляслоўе да паэмы М. Чарота «Босыя на вогнішчы». Крытычны нарыс — Менск: Выд. Калінінскага акрпалітсавета, 1925.**

**31. К реорганизации Инбелкульта // Звезда. — 1925. — 3 февр.**

**32. Кузница культуры трудящнхся масс // Звезда. — 1925. — 13 окт.**

**1926**

**33. Далейшыя шляхі краязнаўства на Беларусі (даклад на I Усебеларускім з'ездзе) // Працы Усебеларускага краязнаўчага з'езду 7—11 лютага 1926 г. — Менск, 1926.**

**34. Белоруссня: Территория, население, экономика, важнейшне моменты мсторнм, экономнческме очеркя Советской Белоруссмн н ее округов. — Мпнск: Госнздат Белоруссмн, 1926. — 96 с (В соавторстве с А. Смолнчем).**

**35. Увага аб вынікненні беларускага руху // Малад-няк. - 1926. -№ 10-12.**

**36. І ў шыр, і ў глыб // Беларуская вёска. — 1926. -21 сакавіка.**

**37. Якубу Коласу // Савецкая Беларусь. — 1926. 23 лістапада.**

**224**

**1927**

**38. Каля магілы барацьбіта. — Менск: Белдзяржвыд, 1927. - 30 с**

**39. У кіпцюрах белага арла // Да дня вызвалення Бе-ларусі ад белапалякаў. — Менск, 1927.**

**40. Вынікнснне і змены арганізацыйных цэнтраў паў-стання 1863 г. на Беларусі // Полымя. — 1927. — № 3, 4.**

**41. Вывучэнне Кастрычніцкай рэвалюцыі // Наш край. — 1927. - № 10.**

**42. Пасля акадэмічнай канферэнцыі // Савецкая Беларусь. — 1927. — 1 студзеня.**

**43. Ужо сем год // Чырвоная змена. — 1927. — 10 ліпеня.**

**1928**

**44. Наша нацыянальна-культурнае будаўніцтва // Са-вецкае будаўніцтва. — 1928. — № 1.**

**45. Да пастаноўкі пытання аб паўстанні 1863 году // Бальшавік Беларусі. — 1928. — № 6—7.**

**46. Старонка з гісторыі культурнага будаўніцтва ў БССР // Бальшавік Беларусі. — 1928. — № 12.**

**47. Прадмова да зборніка апавяданняў Л. Родзсвіча «Рэвалюцыйным шляхам». Менск, 1928.**

**48. Аб выданні на беларускай мове твораў У І. Леніна (інфармацыйны даклад на пленуме ЦК КП(б)Б) // Са-вецкая Беларусь. — 1928. — 13 врасня.**

**49. Шляхі развіцця Інстытута беларускай культуры // Савецкая Беларусь. — 1928. — 14 кастрычніка.**

**1929**

**50. XI годовшнна БССР — I годовшнна Белорусской академнн наук // Рабочнй. — 1929. — 31 декабря.**

**1930**

**51. 1863 год на Беларусі: Нарыс падзей // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кніга 13. Працы Інстытуту гіста-Рычных навук. Том V. Менск, 1930. — 275 с**






# Літаратура:


Ігнатоўскі Усевалад Макаравіч // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. Мінск, 1998. Т. 7. С. 162

Ігнатоўскі Усевалад Макаравіч // Беларусь : энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1995. С. 344.

Ігнатоўскі, У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі / У.М. Ігнатоўскі. - 5-е выд. - Мінск : Беларусь, 1991. - 190 с., [12] л. іл.

Игнатовский Всеволод Макарович // Национальная академия наук Беларуси : персональный состав / [составители : О.А. Гапоненко и др. ; редакционная коллегия : Н.А. Борисевич (председатель) и др.]. - 3-е изд., дополненное и переработанное. Минск, 2003. С. 71.

Игнатовский Всеволод Макарович // Республика Беларусь: энциклопедия: в 7 т. / Редкол.: Г.П. Пашков и др. – Мн.: Бел.Эн, 2006. –Т. 3. – С. 710.

Ігнатоўскі Усевалад Макаравіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. / Рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал.рэд.) і інш.; маст. Э.Э. Жакевіч. – Мн.: БелЭн, 1996. –Т. 3. - С. 470.

Ігнатоўскі Усевалад Макаравіч // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / Рэдкал.: Г.П.Пашкоў і інш. – Мн.: БелЭн, 1996. –Т. 7 . – С. 162.

Академик В. М. Игнатовский: Документы и материалы. – Мн., 2010. – 277с.

Брыгадзін, П.І. Усевалад Ігнатоўскі: Палітычны дзеяч., вучоны / П. І. Брыгадзін, І. Д. Мацяс. – Мн., 1998. – 95с.

Зайка, А.Сын быценьскага святара : Малавядомая старонка жыцця У. Ігнатоўскага // Рэха Берасцейшчыны. – 2009. - №32.

Историко-культурное наследие Каменетчины =гісторыка-культурная спадчына Камянеччыны: Сб. научных докладов. – Мн., 2008.- 190с.

Купала, Я. Поўны збор твораў у дзевяці тамах : Т.4. – Мн., 1997. – С.123-124.

Петрашкевіч. А. Воля на крыжы [Тэкст]: Трагедыя / Алесь Петрашкевич // Полымя. – 2000. - №2. –С. 82-147.

Пракаповіч, А. "Воўк" / М Пракаповіч // Мяжа надзеі : Зборнік. – Мн., 1993. – С.142.

Яфімовіч, У. Ёсць вуліца Ігнатоўскага: [да 128 – годдзя з дня нараджэння нашага славутага земляка Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага] // НК. – 2009. – 18 крас.

Трибулёва, Е. Славный сын земли белорусской: [к 127-й годовщине со дня рождения В. Игнатовского] // Веч. Брест. – 2008. – 18 апр. – С. 2.

Яфімовіч, У. Славуты сын Айчыны // Нав. Камянеччыны. – 2006. – 19 крас.

Яфімовіч, У. Славуты зямляк з Такароў // Нав. Камянеччыны. – 2001. – 18 крас.

# Спадчына, якой мы ганарымся





# Уладзімір Стэльмах

*беларускі тэатральны дзеяч, пісьменнік*

**1910 - 1974**

**Уладзімір Стэльмах**

**(1910-1974)**

Уладзімір Стэльмах увайшоў у гісторыю беларускай культуры як тэатральны дзеяч і тэатразнаўца, драматург і акцёр. Ён узначальваў вядучыя тэатры нашай краіны: БДТ-1 (тэатр імя Янкі Купалы), БДТ-2( тэатр імя Якуба Коласа), Тэатр оперы і балету, Тэатр юнага гледача. Уладзімір Стэльмах нарадзіўся 28.07.1910г. ў вёсцы Бушмічы ў вялікай сялянскай сям'і. Ён быў апошнім дзіцём у сям’і. Сваякі Стэльмахаў па лініі маці, Маланні Андронаўны, вызначаліся вальналюбствам і пратэстам супраць уціску. За ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях 1905г. яны былі высланы у Сібір. Дзяцінства Уладзіміра Стэльмаха прыпадае на цяжкія ваенныя гады, на рэвалюцыю з усімі негатыўнымі наступствамі, якія нясуць гэтыя падзеі. Калі царскія ўлады ў 1915г. выганялі беларусаў у бежанства, Стэльмахі з Бушмічаў падаліся на Табольшчыну да матчыных братоў. Спачатку аселі на станцыі Ішым. Калі пачалося рэвалюцыйнае бязладдзе, падаліся ў вёску Далёкае да старэйшага брата са спадзяваннем, што там будзе спакайней і лягчэй зарабіць кавалак хлеба. У далёкай Сібіры Валодзя Стэльмах пачаў вучыцца ў школе. Спадзяванні на лепшае для нашых землякоў з Бушмічаў не спраўдзіліся, і яны ў 1919г. наважыліся вяртацца, як і сотні іншых беларусаў, на радзіму. Дарога дадому была доўгай і цяжкай, але трапіць на Камянеччыну Стэльмахам не удалося: Берасцейшчына была акупавана чужынцамі. Нашы землякі спыняюцца пад Мінскам, жывуць і працуюць спачатку ў Пятроўшчыне, а затым у Зарэччы.

Цікавасць у падлетка з Бушмічаў да тэатра ўзнікла рана. Яна бярэ пачатак з тэатральных дзействаў, звязаных з каляндарна-абрадавымі святамі. Масавая культурна-асветная праца, якая праводзілася ў 1920-х гг. у Беларусі, паспрыяла таму, што Валодзя Стэльмах стаў актыўным членам драматычных гурткоў. Сваю ролю адыгралі і гады навучання ў Белпедтэхнікуме, куды ён паступіў у 1926г. Нацыянальны ўздым, творчая атмасфера, кіпучае літаратурна-культурнае жыццё, выдатныя педагогі, сустрэчы з пісьменнікамі, якія не ігнаравалі запрашэнні студэнтаў і выкладчыкаў і былі частымі гасцямі навучэнцаў, сістэматычнае наведванне тэатра актывізавалі творчы патэнцыял Уладзіміра Стаьмаха, яго імкнсння стаць акцёрам. Вырашальную ролю ў яго лёсе адыграў рэжысёр БДТ-2 М. А. Міцкевіч, які прапанаваў юнаку з Камянеччыны паступіць у студыю пры гэтым тэатры.

Пасля яе заканчэння Уладзіміра Стэльмаха перавялі ў Мінскі тэатр моладзі (1930 г.). Тут малады акцёр працаваў да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Уладзімір Стэльмах спачатку служыў у войску, а ў 1943г. яму даручылі ўзначаліць БДТ-2, які знаходзіўся ў эвакуацыі некаторы час на Урале, а затым у Падмаскоўі. З гэтым тэатрам наш зямляк вярнуўся ў Віцебск і прапрацаваў тут адзін тэатральны сезон, а затым быў пераведзены ў Мінск на пасаду дырэктара тэатра оперы і балету. З той пары і да канца жыцця жыў і працаваў у сталіцы рэспублікі, займаючы высокія пасады ва ўстановах культуры. Пачатак літаратурнай творчасці Уладзіміра Стэльмаха прыпадае на 1930гг., калі былі напісаны п‘есы "Шляхі", "Тры крыжыкі", "Фантан" і "Канец маскарада” (апошняя ў сааўтарстве з Ю. Рудзько). Яны не сталі з'явай ні ў драматургіі, ні ў тэатральным жыцці, бо гэта творы свайго часу і маюць толькі гісторыка-літаратурнае значэнне. Асноўнае месца ў творчай спадчыне нашага земляка займаюць публіцыстычныя артыкулы, прысвечаныя бягучым праблемам тэатральнага жыцця рэспублікі, дзейнасці драматычных калектываў мастацкай самадзейнасці, рэцэнзіі на спектаклі беларускіх тэатраў, а таксама тэатраў іншых рэспублік СССР, якія прыязджалі да нас на гастролі. Заслуга Уладзіміра Стэльмаха як пісьменніка заключаецца і ў тым, што ён напісаў творчыя партрэты такіх майстроў беларускай сцэны, якімі з'яўляюцца К. Саннікаў, У. Крыловіч, Л. Мазалеўская, П. Малчанаў, А. Ільінскі, М. Міцкевіч і інш, а Г. Глебаву прысвечана асобнае выданне - "Народны артыст СССР Г. П. Глебаў" (1954г.). Уладзімір Стэльмах і сам стаяў ля вытокаў савецкага тэатра, ведаў яго праблемы знутры. Таму яго працы "Кранаючы чуткія струны душы", "Тэатр і час. Запіскі дырэктара тэатра" (1973г.), успаміны пра дзейнасць Мінскага тэатра моладзі і пра стварэнне Тэатра юнага гледача - значны ўнёсак у гісторыю беларускага тэатра. Выхад працаў, прысвечаных гэтай праблеме, іншых аўтараў станавіўся аб'ектам ацэнак Уладзіміра Стэльмаха. Яму належаць рэцэнзіі на манаграфіі У. Няфёда, прысвечаныя гісторыі беларускага тэатра, Я. Рамановіча "Рэкі цякуць з берагоў", на "Тэатральную энцыклапедыю”. Любімая справа, якой У. М. Стэльмах аддаваўся з захапленнем, прынесла свой добры плён: “Лёс тэатра і яго будычыня залежыць ад таго, наколькі ён звязан са сваім гледачом, з’яўляецца яго сучаснікам, жыве адзінымі думкамі са сваім народам”, пісаў У. М. Стэльмах. У. М. Стэльмах памёр 27 студзеня 1974 года. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

**Уладзімір Стэльмах** - **аўтар п’ес «Шляхі» (1931), «Канец маскараду» (1938), кніг «Народны артыст СССР Г. П. Глебаў» (1954), «Шляхі беларускага тэатра»(1954), «Шляхі беларускага тэатра» (1964), «Кранаючы чуткія струны душы» (1966), «Тэатр і час: Запіскі дырэктара тэатра» (1973), артыкулаў пра беларускі тэатр. Пераклаў на беларускую мову «Хітрыкі Скапэна» Мальера (1940).**

## Літаратура:

Стэльмах Уладзімір Мацвеевіч // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / Рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш. – Мн.: БелЭн, 1996. –Т. 15 . – С. 230.

Стельмах Владимир Матвеевич // Республика Беларусь: энциклопедия: в 7 т. / Редкол.: Г.П. Пашков и др. – Мн.: Бел.Эн, 2006. –Т. 7. – С. 109.

Стэльмах Уладзімір Мацвеевіч // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / Рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд) і інш. – Мн.: Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1985. Т. 5. – С. 151.

Уладзімір Стэльмах// Літаратурная карта Берасцейшчыны / укл. А. Крэйдзіч.- Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2008.- С. 298 – 300.

Парафянюк Г. Прысвяціў жыццё тэатру: [Аб тэатральным дзеячу У. М. Стэльмаху. Родам з Бушміч] // Нав. Камянеччыны. – 1993. – 3 сакавіка.



# Уладзімір Гніламёдаў

*беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец*

нар. у 1937 годзе

**Уладзімір Гніламёдаў**

**(нар. у 1937 годзе )**

Імя Уладзіміра Гніламёдава, нашага земляка добра вядома на Беларусі. Вядомы літаратуразнавец і крытык, даследчык у галіне тэорыі і гісторыі літаратуры, дырэктар Інстытута літаратуры НАН Беларусі ўжо больш за сорак год займаецца вывучэннем беларускай літаратуры. Ён належыць да таго пакалення пісьменнікаў, выхадцаў з Заходняй Беларусі, якому савецкая ўлада адчыніла дзверы для бясплатнага навучання, да вяршыняў навукі. І гэтую мажлівасць вясковы хлопчык з Камянеччыны выкарыстаў напоўніцу, дасягнуўшы вышэйшых навуковых ступеняў і звання - доктара філалагічных навук, акадэміка.

Уладзімір Гніламёдаў нарадзіўся 26 снежня 1937 года ў сялянскай сям'і вёскі Кругель. На фармаванне яго духоўнага свету вялікі ўплыў аказаў дзед па матчынай лініі Сцепанюк Лявон Міхайлавіч, які паездзіў па свеце, шмат пабачыў і перажыў і меў дар апавядальніка. Валодзя быў гадаванцам бабы і дзеда покуль не закончыў мясцовую дзесяцігодку.

Кругельская школа выводзіла Уладзіміра Гніламёдава ў свет. З першага класа і да яе заканчэння ў 1954г. вучыўся з цікавасцю і дзесяцігодку закончыў са срэбным медалём. Юнак з Кругеля марыў стаць геолагам, але атэстат аб заканчэнні сярэдняй школы выдалі не ў час. Уладзімір Гніламёдаў спазніўся на камісію па суразмове ў БДУ, па выніках якой тады залічвалі медалістаў. Кругельскі выпускнік падаў дакументы на факультэт мовы і літаратуры Брэсцкага педінстытута. Выбар гэтага факультэта не быў выпадковым. Уладзімір з дзяцінства любіў мастацкае слова, яго багаты і чароўны свет.

Студэнцкія гады Уладзіміра Гніламёдава (1954-1959) прыпалі на бурлівы час, звязаны з вяртаннем у літаратуру рэпрэсаваных пісьменнікаў. Юнака з Кругеля можна было бачыць у студэнцкіх аўдыторыях на калідоры інстытута з томікам у руках то Мусы Джаліля, то У. Хадыкі. Актывізацыі цікавасці да літаратуры, да яе велічных і трагічных старонак спрыялі такія любімыя студэнтамі тых гадоў выкладчыкі, як А. Б. Рубцоў, У. А. Калеснік, Ц. Смальянава. Прыхільнасцю студэнтаў і нават папулярнасцю ў горадзе карыстаўся драматычны гурток інстытута, якім кіраваў артыст Брэсцкага тэатра А. М. Самараў. Уладзімір Гніламёдаў у гэтым самадзейным калектыве быў вядучым артыстам. На факультэце часта наладжваліся сустрэчы студэнтаў з пісьменнікамі, праводзіліся дыспуты і канферэнцыі, арганізоўваліся літаратурныя вечарыны. Ва ўсіх гэтых мерапрыемствах Уладзімір Гніламёдаў прымаў непасрэдны ўдзел.

Пасля заканчэння педінстытута малады спецыяліст быў накіраваны на працу завучам Тамашоўскага дзіцячага дома і настаўнікам беларускай і рускай моў і літаратур мясцовай сямігодкі Брэсцкага раёна. Па-сапраўднаму разгарнуцца на гэтых пасадах маладому педагогу не ўдалося: ён быў прызваны ў войска. Пасля дэмабілізацыі ў 1961 г. пачаў працаваць настаўнікам у Камароўскай сярэдняй школе гэтага ж раёна, актыўна ўключыўся ў культурна-асветніцкую працу вёскі, хораша заявіў пра сябе ў якасці рэжысёра і актора ў Купалавай “Паўлінцы".

З 1962 г. жыве і працуе ў Мінску, звязаўшы свой лёс з Інстытутам літаратуры НАН: аспірант, малодшы навуковы супрацоўнік, загадчык аддзела тэорыі літаратуры, намеснік дырэктара, дырэктар... Праўда, з 1969 па 1976 год працаваў у апараце ЦК КПБ спачатку інструктарам аддзела культуры, затым загадчыкам сектара мастацкай літаратуры.

Першыя публікацыі Уладзіміра Гніламёдава ў друку з'явіліся ў 1963 г. Паказальна, што свой дэбют як літаратурны крытык знаны цяпер вучоны пачынаў з рэцэнзіі "Крытык становіцца пісьменнікам" ("Заря", 16 нюня) на кнігу свайго настаўніка У. А. Калесніка "Час і песні". Уладзімір Гніламёдаў узнагароджаны першым - рэспубліканскай літаратурнай прэміяй імя У. А. Калесніка за манаграфію "Янка Купала: Новы погляд".

Напачатку літаратурнай творчасці аспірант Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы правяраў сам сябе, рэакцыю чытачоў на свае публікацыі ў Брэсцкай абласной газеце "Заря", адгукаючыся на творы сваіх землякоў. Першая навуковая тэма Уладзіміра Гніламёдава была прысвечана сучаснай беларускай паэзіі. Гэтаму жанру вучоны застаўся верны і па сёння. Ён аўтар больш дзесяці манаграфій і зборнікаў літаратурна-крытычных артыкулаў: "Традыцыі і наватарства" (1972), "Упоравень з векам" (1976), "Як само жыццё" (1980), "Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць" (1983), "Ля аднаго вогнішча” (1984). “Пафас жыццесцверджання: “Вобраз чалавека актыўнай жыццёвай пазіцыі ў сучаснай беларускай паэзіі" (1985), "Класікі і сучаснікі" (1987) і інш. Пяру Уладзіміра Гніламёдава належаць творчыя партрэты Васіля Зуёнка, Пімена Панчанкі і інш. Гэтым даследчыкам перачытана творчасць Янкі Купалы, перачытана свежа, мудра і мужна. Як бачым, пераважная большасць яго працаў прысвечана паэтам. Выключэнне складае манаграфія "Іван Мележ: Нарыс: жыцця і творчасці" (1984).

У. В. Гніламёдаў ніколі не быў вольным літаратарам. Высокія пасады, якія ён займаў, забіралі шмат сіл і часу. Тым не менш гэта ніколі не выбівала даследчыка з творчага стану: пісаў і піша рэцэнзіі, літаратуразнаўчыя артыкулы, манаграфіі, уваходзіць у склад аўтарскіх калектываў па тэмах, якія распрацоуваюць навукоўцы Інстытута літаратуры.

На працягу ўсяго творчага шляху Уладзіміру Гніламёдаву характэрна ўвага да маладых, хто толькі пачынае сваю дарогу ў літаратуры. Ён імкнецца падтрымаць, сказаць найперш добрае слова, пасеяць упэўненасць.

Пачынаючы з 2000г., Уладзімір Гніламёдаў пачаў выступаць як празаік.  Яго пяру належыць трылогія "Сямейная хроніка ў духу барока". Першая кніга "Уліс з Прускі" выйшла асобным выданнем. Гэты раман вызначаецца выразным рэгіянальным каларытам. Сюжэтную аснову аповесці складаюць жыццёвыя перыпетыі Лявонція Міхайлавіча Сцепанюка, дзеда аўтара. Галоўны герой аповесці ў многім паўтарае жыццёвы шлях свайго прататыпа. Яны прыкладна аднагодкі, гадаваліся ў такіх самых сем'ях, рана асіроцелі, ездзілі на заробкі ў ЗША.

Падзеі ў аповесці разгортваюцца ў вёсцы Пруска і яе ваколіцах, хоць з кантэксту твора відавочна, што гэта родная вёска аўтара, пра што сведчаць назвы суседніх паселішчаў, якія згадваюцца ў рамане: Трасцяніца, Свішчова, Бучамле, Камянец і інш. Ля раённага цэнтра размешчана некалькі вёсак пад такой назвай Пруска Велівейская, Пруска Багуслаўская, Пруска Валгінова. Хоць іх назвы мясцовыя жыхары звязваюць з прусамі, хутчэй за ўсё яны атрымалі свае тапонімы ад  першага ўладальніка, які, магчыма, і быў прусам, што падкрэсліваецца іх прыдумкамі. У твор увайшла галоўная рака Камянеччыны Лясная пад назвай Лёсна, дэталёва апісана дарога з Кругеля ў Камянец з адметнымі навакольнымі пейзажамі. Такім чынам, Уладзімір Гніламёдаў зрабіў першую спробу ўзвесці свой кут на Парнас.

У цэнтры другога рамана "Усход" - падзеі Першай сусветнай вайны, бежанства прускаўцаў на ўсход. Пісьменнік паказвае, што расстанне з родным краем яго героям даецца нялёгка. Яны імкнуцца пакінуць тут нешта такое, каб не стаць чужынцамі. Прускаўцы ўзводзяць крыж, які будзе іх клікаць да родных магілаў. Не забываюць яны і пра мяшэчак з роднай зямлёю, які спрадвечна бралі з сабой беларусы, пакідаючы родныя селішчы. У кнізе "Усход" аўтар стварае калектыўны вобраз сваіх землякоў. Прускаўцы - ахвяры вайны, выканаўцы чужой волі, якая супрацьстаіць іх інтрэсам і жаданням, якая выгнала іх з дому ў глыб Расіі ажно ў Самарскую губерню.

Гэта расшырыла іх гарызонты, дало магчымасць усвядоміць сябе часткай сусветнай супольнасці, суаднесці свой прыпушчанскі мікракосмас да жыцця тых людзей, куды закінуў іх лёс, адчуць духоўную з імі роднасць.

Трэці раман "Сямейнай хронікі ў духу барока" названы "Вяртанне". Прускаўцы зноў пусціліся ў дарогу - на радзіму. Вяртанне іх, аднак, было нярадасным. Родны край быў паняволены чужынцамі. Героям пісьменніка патрэбна будзе прывесці да ладу родныя гнёзды, каб пачаць новае жыццё, каб было яно годным чалавека.

Уладзімір Гніламёдаў уваходзіць у склад рэдакцыйных саветаў і калегій навуковых і літаратурна-крытычных перыядычных выданняў (“Полымя”, “Беларуская думка”, “Весці НАН Беларусі” і інш.). За плённую працу ў галіне літаратуразнаўства і крытыкі, дасягненні ў арганізацыі навуковага і мастацкага жыцця рэспублікі Уладзімір Васільевіч узнагароджаны многімі медалямі.

Літаратуразнаўца, крытык, празаік, педагог, арганізатар беларускай навукі… па сягонняшні дзень даглядае свой чароўны сад мастацкай літаратуры. І чым адданей працуе ён, тым лепшы і багацейшы ўраджай, ярчэйшыя і вабнейшыя кветкі.

**Уладзімір Гніламёдаў** - у друку выступае як крытык і літаратуразнавец з 1962. Выдаў брашуры «Лірычны летапіс часу» (1967), «Ленін у сэрцы» (1968), «Сучасная беларуская паэзія» (1969), «Пафас жыццесцвярджэння: Вобраз чалавека актыўнай жыццёвай пазіцыі ў сучаснай беларускай паэзіі» (1985). Аўтар манаграфіі «Традыцыі і наватарства» (1972), «Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» (1983), «Іван Мележ: Нарыс жыцця і творчасці» (1985), зборнікаў літаратурна-крытычных артыкулаў «Упоравень з часам» (1976), «Як само жыццё» (1980), «Ля аднаго вогнішча» (1984), «Класікі і сучаснікі» (1987), «Ад даўніны да сучаснасці» (2001), «Я. Купала. Жыццё і творчасць» (2002). Адзін з аўтараў кнігі «У. І. Ленін і Кастрычніцкая рэвалюцыя ў беларускай літаратуры» (з С. Лаўшуком, Л. Савік, 1987).



# Літаратура:


Гниломёдов Владимир Васильевич // Кто есть кто в Республике Беларусь. Люди дела / [под ред. И. В. Чекалова]. – Мн.: Энциклопедикс, 1999. – С. 106.

Гниломёдов Владимир Васильевич // Республика Беларусь: энциклопедия: в 7 т. / Редкол.: Г. П. Пашков и др. – Мн.: Бел.Эн, 2006. – Т. 3. – С. 61.

Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / Рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш. – Мн.: БелЭн, 1996. – Т. 5 . – С. 315.

Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / Рэдкал.: І. П. Шамякін (гал.рэд) і інш. – Мн.: Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1985. - Т. 2. – С. 107.

Гніламёдаў Уладзімір // Беларускія пісьменнікі (1917—1990): Даведнік; Склад. А. К. Гардзіцкі. Нав. рэд. А. Л. Верабей. — Мн.: Мастацкая літаратура, 1994. — 653 с.: іл.

Уладзімір Гніламёдаў // Літаратурная карта Берасцейшчыны / укл. А. Крэйдзіч.- Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2008.- С. 300 – 303.

Студзенка, Т. Беларускі эпас трэцяга тысячагоддзя: [ пра творы У. Гніламёдава ] // Бел. Думка.- 2011.- № 2 . – С. 86 – 93.

Давыдаў, У. Seripta manent - напісанае застаецца: [Пра крытыка, літаратуразнаўца, акадэміка НАН Беларусі У. В. Гніламёдава нар. у 1937 г., Камянецкага раёна] // Бел. думка.- 2010.- № 5. – С. 54 – 60.

Раманчук, А. Сапраўднасць таленту : Акадэмік, педагог, празаік. – Уладзімір Гніламёдаў// Роднае слова.- 2007. - №12. – С. 16 -17.

Шамякіна, М. Часопіс «Полымя» - этапы творчага станаўлення : [Выступленне акадэміка У. В. Гніламёдава] // Полымя.- 2007. - №12. – С. 13.

Гарадніцкі, Я. Шлях вучонага і пісьменніка : творчы партрэт У. Гніламёдава // Маладосць . – 2007 .- №12 .- С. 117 – 121.



# Васіль Жуковіч

*беларускі пісьменнік*

нар. у 1939 годдзе

**Васіль Жуковіч**

**(нар. у 1940 годзе )**

Васіль Жуковіч нарадзіўся 7 лістапада 1940 года на самым ускрайку Белавежскай пушчы на хутары Забалацце, што мясцілася ля вёскі Дзмітравічы Камянецкага раёна, ў вялікай сялянскай сям'і. Ён быў апошнім, восьмым дзіцём у Аляксея Іванавіча і Аўгіні Дзянісаўны. Хараство навакольных краявідаў, маміны песні і казкі, дзедавы і бацькавы показкі пра гісторыю краю, хрысціянскія запаветы і паганскія адносіны да ўсяго жывога, якіх цвёрда трымаліся ў сям'і Жуковічаў, фармавалі духоўны свет Васіля. Гэты свет пазней пяройдзе ў яго творы.

У 1947 годзе , калі хлопчыку споўнілася сем гадоў, пайшоў вучыцца ў Дзмітравіцкую школу.

Пасля заканчэння дзесяцігодкі юнак з Забалацця падаўся на свой хлеб, уладкаваўся на працу рабочым на Брэсцкім заводзе будаўнічых дэталяў. Развітацца з літаратурай, з жаданнем выкласці свае пачуцці, думкі на паперы ўжо не мог, тым больш, што першыя вершы былі надрукаваны у 1956 годзе ў газеце “Піянер Беларусі”.

Пасля заканчэння школы Васіль Жуковіч паступае на факультэт мовы і літаратуры Брэсцкага педінстытута і трапляе ў клапатлівыя і патрабавальныя рукі У. А. Калесніка. Юнак пачынае наведваць літаратурнае аб'яднанне пры абласной газеце "Заря", якім кіраваў яго настаўнік, актыўна выходзіць у друк са сваімі вершамі. У 1959 годзе нечакана памірае мама. З прычыны цяжкага матэрыяльнага становішча ў 1962 годзе з трэцяга курса Васіль Жуковіч перавёўся на завочнае аддзяленне інстытута і працаваў літсупрацоўнікам, загадчыкам сельскагаспадарчага аддзела рэдакцыі брэсцкай раённай газеты “Зара над Бугам”. Яго паэтычны голас актыўна гучаў на старонках абласнога і рэспубліканскага друку. Да гэтага часу выявіліся прыхільнасці і аўтарытэты ў паэзіі - С. Ясенін, М. Танк, М. Багдановіч. Апошні застаўся любімым на ўсё жыццё. На гэты час прыпадае сяброўства і ліставанне Васіля Жуковіча з Жэняй Янішчыц.

З 1971 года Васіль Жуковіч – старшы рэдактар Брэсцкай студыі тэлебачання. Вершы маладога паэта былі заўважаны ў сталіцы. Яго запрашаюць на працу ў рэдакцыю газеты "Знамя юности". Хоць прапанова была пачэснай, заманлівай, але Васілю Жуковічу было нялёгка сарвацца і ехаць у невядомасць і няпэўнасць.

Тут, на Берасцейшчыне, заставаліся родныя магілы, жылі шматлікія сваякі, нарадзілася сям'я, дачакаўся дзетак, нарэшце займеў сваю кватэру. Можа, Васіль і адмовіўся б ад ганаровай прапановы, але тут сваё рашучае  слова сказаў У. А. Калеснік і фактычна благаславіў на пераезд у Мінск. З мая 1972 года становіцца літсупрацоўнікам газеты “Знамя юности”.

Праз год Васіль Жуковіч пераходзіць на працу ў выдавецтва "Мастацкая літаратура", а затым - у "Юнацтва" на пасаду намесніка рэдактара. Уладкаваны побыт, шчасце бацькоўства, сталічная творчая атмасфера спрыялі актывізацыі таленту пісьменніка. Ён піша для дарослых і дзяцей, выступае ў жанры паэзіі, прозы, хораша раскрываецца як творца-гумарыст. Адзін за адным вы - ходзяць зборнікі вершаў Васіля Жуковіча, аповесць "Як адна вясна...«.  Асабліва ўрадлівым для яго быў 1976г., калі ў друку з'явілася ажно чатыры  самастойныя выданні. Пісьменнік выразна ўсвядоміў, што рэалізаваць свае задумы працуючы чыноўнікам у выдавецтве, яму не ўдасца, і ён робіць выбар на карысць творчай працы. З 1982г. Васіль Жуковіч - вольны літаратар.

Муза Васіля Жуковіча не ведае збояў. Ён працуе актыўна. Адзін за адным выходзяць яго зборнікі: "Паклон", "Мелодыя святла", "Суседства", "Цана цішыні” і інш. Наш зямляк з прыпушчанскага краю хораша заявіў пра сябе і як паэт-песеннік. Выйшла некалькі зборнікаў яго песняў, у тым ліку і для дзяцей: “Дарога  ля жыта", "Свята", "Дзіўны горад". На вершы Васіля Жуковіча напісаны песні У. Буднікам, Э. Зарыцкім, Л. Захлеўным і інш. Паэт і сам піша музыку і хораша спявае пад гітару.

Значнае месца ў творчасці Васіля Жуковіча заўсёды належала перакладам. Пераклаў зборнік К. Цвіркі «Салавейка» (1974) для дзяцей, паасобныя вершы І. Якштаса, П. Грабоўскага, І. Няходы, У. Мэя, апавяданні А. Ананьева, С. Баруздзіна.

Ён перавёў  на родную мову вершы літоўскіх, украінскіх, рускіх паэтаў. Быў час, калі Васіль Жуковіч збіраўся стаць перакладчыкам паэтаў Усходу, нават стажыраваўся ва Узбекістане і вывучаў мову гэтага народа. Апошнім часам прыхільнасці творцы як перакладчыка звязаны з імёнамі Адама Міцкевіча ("Мой Міцкевіч", 2001), Лесі Украінкі, Івана Франко, Тараса Шаўчэнкі (“Энергія запаветаў", 2006).

Без перабольшання Васіля Жуковіча можна назваць песняром роднага кута і Радзімы, сям'і, кахання. З родным кутом яго лучыць не толькі тое, што тут жывуць яго крэўныя, што тут магілы продкаў, але і тое асяроддзе, людзі, якія фармавалі яго мастацкі свет. Ужо ў адным з ранніх вершаў Васіль Жуковіч пісаў:

*Я родам з тых мясцін лясных,*
*Дзе і раку завуць Лясною,*
*Дзе у бярозы і сасны*
*Аблокаў пух над галавою.*

На Камянеччыне фармаваліся яго маральныя і эстэтычныя ідэалы. У вершах Васіля Жуковіча згадваюцца Белавежа, Забалацце, Дмітравічы, Камянец, вёскі Селішчы, Радасць, Падбрадзяны. Паэту ўдалося стварыць індывідуалізаваны вобраз краю.

Ад зборніка да зборніка пражытыя гады зрабілі лірычны суб'ект Васіля Жуковіча мудрым. Ён разумее незваротнасць плыні часу, калі на змену маладосці прыходзіць сталасць, а затым і старасць і, нарэшце, дарога туды, адкуль вяртання няма. Таму кожнаму трэба спяшацца наталяцца прыгажосцю зямлі, буяннем веснавой прыроды, плоднасцю лета і восені, багаццем фарбаў родных краявідаў, духоўным храраствомм чалавека, яго талентам, які знаходзіць сваё выяўленні ў розных галінах дзейнасці, веліччу зробленага і пакінутага ў спадчыну наступнікам. Лірычны герой паэта ведае цану існавання на грэшнай, але такой прывабнай зямлі.

Праз сваё жыццё і творчасць В. Жуковіч Беражліва нясе пачуцці удзячнага вучня, сына, увогуле удзячнага чалавека. Сведчанне таму – многія вершы- прысвячэнні: А. Вярцінскаму, А. Пысіну, У. Караткевічу, Н. Мацяш.

Вызначальны ўплыў на Васіля Жуковіча аказала яго мама. Яе маральны кодэкс, яе духоўны свет сталі сынавымі.

Можна скласці цэлы зборнік вершаў паэта, прысвсчаных маці: "Маміна дарога", "Хвілінаю адчаю", "Зноў за крыжам акна...", "Мая мама верыла ў Бога...", "У куточку, дзе змоўклі сосны..." і інш. Мама, якой даўно няма, і цяпер для лірычнага героя - найвышэйшы аўтарытэт.

Увогуле лірычны герой нашага земляка багаты на  крэўную і духоўную радню. Яго вабяць людзі з адкрытай душой, чыстыя сумленнем, гордыя і годныя, здольныя не падаць духам у час выпрабаванняў і нягодаў. Лірычнае "я" паэта захапляецца натурамі стойкімі, высакароднымі, якія здольны адужаць жыццёвыя цяжкасці і нават у гэты скрушны час дапамагць тым, хто трапіў у бяду. Лірычны суб’ект творцы перакананы, што чалавеку неабходна займаць актыўную жыццёвую пазіцыю, быць стваральнікам.

Ёсць у Васіля Жуковіча і інтымная лірыка, пісьменнік выступае за гармонію і прыгажосць  чалавечых зносін. У 2004г. выйшаў зборнік яго вершаў “Кахання радасці й пакуты”.

Зараз В. Жуковіч жыве і працуе ў Мінску, але сувязі са сваімі роднымі вытокамі не парывае. Сюды клічуць яго сцежкі маленства і юнацтва. Памяць нязменна вяртае паэта ў бацькоўскі край, дзе ўсё дыхае свабодай, дзе душа  можа наталіцца гаючым водарам пушчы, рэчак, палёў,  натхніцца чароўным духам спадчыннай спеўнасці, незвычайнасці берасцейскай зямлі.

**Васіль Жуковіч** – аўтар

зборнікаў «Паклон »(1974), «Мелодыя святла» (1976), «Суседства» (1982), «Цана цішыні» (1985), «Твая місія» (1988), «Разняволянне» (1990), «Гуканне вясны» (1992), «Цудоўная краіна» (1997), «Ад казкі - да спектакля» (1998) і інш.


















# Літаратура:

Жукович Василий Алексеевич // Кто есть кто в Республике Беларусь. 2005. / [под ред.И.В.Чекалова, автор составитель А.И.Котов]. – Мн.: ООО «Мэджик-Бук», 2005. – Т. 2. - С. 124.

Жукович Василий Алексеевич // Республика Беларусь: энциклопедия: в 7 т. / Редкол.: Г. П. Пашков и др. – Мн.: Бел.Эн, 2006. –Т. 3. – С. 568.

Жуковіч Васіль Аляксеевіч // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / Рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш. – Мн.: БелЭн, 1996. –Т. 6 . – С. 447.

Жуковіч Васіль Аляксеевіч // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5т. / Рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд) і інш. – Мн.: Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1985. Т. 2 –С. 441.

Трафімчык, А. Васілю Жуковічу – 70: [Пра жыццёвыя шляхі беларускага паэта В. Жуковіча] // Нав. Камянеччыны. – 2010. – 4 снежня. - С. 4.

Мельнікава, З. І хараство і смутак храма: [Пра В. Жуковіча] // Заря. – 2009. – 22 октября. –С. 8.

Тычына, М. Рыфмуюцца натхненне і сумленне: [творчы партрэт В. Жуковіча] // Роднае слова. – 2005. - №8. – С. 31-32.

Мусевіч, Г. Мандаліна нагадала : землякі: [пра аўтабіяграфічную аповесць В. Жуковіча «Як адна вясна»] Нав. Камянеччыны. – 2004. – 18 лютага.



# Ярына Дашына

*паэтка*

**нар. 1978 годзе**

**Ярына Дашына**

**(нар. у 1978 годзе)**

Да ліку перспектыўных паэтычных талентаў прыпушчанскага краю належыць Ярына Дашына, якая нарадзілася 4 кастрычніка 1978 года ў в. Ставы. Імя паэткі даўно вядомае аматарам сучаснага прыгожага пісьменства па шматлікіх публікацыях у такіх выданнях, як "Літаратура і мастацтва", "Першацвет", "Полымя", "Маладосць", "Правінцыя", "Тэрмапілы" і многіх іншых. Цікавасць да літаратуры, імкненне выявіцца ў паэтычнай творчасці ўзніклі рана. Ужо ў школьныя гады ў вёсцы Клейнікі Брэсцкага раёна стала наведваць студыю "Спадчына", якой кіраваў Мікола Пракаповіч. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі Ярына Дашына паступіла на філфак Брэсцкага універсітэта. Літаратурнае асяроддзе актывізавала яе творчыя памкненні. Яна прымае ўдзел у рэспубліканскім конкурсе маладых літаратараў "Дэбют", на якім атрымала Гранпры імя Яўгеніі Янішчыц. Непасрэдныя кантакты з літаратурнай моладдзю ў час творчых семінараў на радзіме, ва Украіне і ў Польшчы развівалі цікавасць да здабыткаў сучаснай сусветнай паэзіі, да вызначэння ў ёй свайго месца. На час вучобы ва універсітэце (1996-2001) прыпадае і выхад у абласны друк 1999г. у калектыўным зборніку "Дзядзінец: Паэзія Берасцейшчыны” была змешчана падборка вершаў Ярыны Дашынай "Тая, што з вамі - не я...". Спектр праблемаў, якія цікавяць паэтку, шырокі. Яе хвалюе лёс Бацькаўшчыны, захапленні маладосці, маральныя ідэалы сучаснікаў. Асабліва ўражвае негатыўнае ўспрыманне Ярынай Дашынай духоўнага стану сучаснага грамадства:

*Голыя рукі, голыя твары,*

*Голыя цені на тратуары.*

*Там, дзе крыжуюць голыя мары,*

*Дым цыгарэтаў і гукі гітары,*

*Голыя вокны, п 'яныя людзі,*

*Тыя, што нас за маўчанне асудзяць.*

*І мітусіцца, і стогне да ранку*

*Голы ліхтар за маёю фіранкай.*

Радуе тое, што захапленне паэзіяй у маладога творцы, якое жывілася лагічным асяроддзем у студэнцкія гады, літаратурнымі ўзаемаадносінамі ў студыі "Спадчына" абласнога Цэнтра творчасці моладзі, не знікла. Яна піша і цяпер, працуючы ў краязнаўчым аддзеле абласной бібліятэкі г. Брэста. Яе апошнія творы надрукавалі аўтарытэтны высокапатрабавальны часопіс “Дзеяслоў", і іншыя рэспубліканскія выданні, падборка вершаў выйшла ў Аўстрыі, дзе імя нашай зямлячкі значылася побач з такім мэтрам у беларускай паэзіі, як Алесь Разанаў. Вершы Ярыны Дашынай перакладзены таксама на рускую, балгарскую мовы. Напрыканцы 2007г. у выдавецтве "Літаратура і масмацтва” выйшаў яе першы паэтычны зборнік **"Графіці на сэрцы".**

Ярына Дашына - паэт стыхійны, які паддаецца імгненнаму водбліску пачуцця, але ў той жа час яе творам характэрны выразны інтэлектуальны пачатак. Творы Ярыны глыбока інтымныя. Лірычнае «я» Ярыны Дашынай жыве ў сваім, у значнай ступені адасобленым свеце. Яно, з аднаго боку, дыстанцуецца ад натоўпу, а з другога боку, усведамляе сябе яго часцінкай, імкнецца вырвацца з яго і ў той самы час адчувае з ім унутраную повязь. Лірычны суб’ект паэткі пратэстуе супраць сваёй уласнай шараговасці.

# Ірына Дашына - аўтар

**падборкі вершаў «Тая,  што з вамі – не я…» надрукавана ў зборніку «Дзядзінец» (1999),**

**Паэтычнага зборніка  «Графіці на сэрцы» (2007).**

## Літаратура:

Ярына Дашына // Літаратурная карта Берасцейшчыны / укл. А. Крэйдзіч.- Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2008. - С. 298 – 300.



# Наталля Кандрашук,
*паэтка*

нар. у 1973 годзе

**Наталля Кандрашук**

**(нар. у 1973 г.)**

Наталля Кандрашук нарадзілася 3 кастрычніка 1973г. ў вёсцы Камянюкі Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Пасля школы закончыла Брэсцкі дзяржаўны універсітэт. Пасля трох год настаўніцкай працы, працуе журналісткай у рэдакцыі часопіса «Крыніца жыцця». Вершы пачала пісаць у 11 год, першыя з іх былі надрукаваны ў раённай газеце «Навіны Камянеччыны. Зараз творы Н. Кандрашук друкуюцца ў многіх выданнях, увайшлі ў паэтычныя зборнікі: «Стихи современных поэтов» (2003г.), «Там, где ты»(2004г.), «У тебя на ладонях» (2008г.), «Вдохновение», «Зимний букет» (2010г.).

**Наталля Кандрашук** – **аўтар вершаў, якія ўвайшлі ў зборнікі «Стихи современных поэтов» (2003г.), «Там, где ты» (2004 г.), «У тебя на ладонях» (2008 г.), «Вдохновение».**

**Зборнік вершаў «Зимний букет» (2010г.).**





# Георгій Мусевіч,

*краязнавец-рэгіяналіст*

нар. у 1931 годзе

**Георгій Мусевіч**

**(нар. у 1931годзе )**

Жыве на Камянецкай зямлі чалавек, для якога любоў да роднай зямлі з'яўляецца невычарпальнай, жыватворнай крыніцай жыццёвай мудрасці і ведаў – краязнавец Георгій Сцяпанавіч Мусевіч.

Нарадзіўся Георгій Сцяпанавіч 11 лістапада 1931г. у в. Дзмітравічы Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Бацька - Мусевіч Сцяпан Сцяпанавіч быў з сялянскай сям'і, скончыў настаўніцкую семінарыю у Белай Падлясцы. Маці – Алена Пятроўна Мусевіч (Елінецкая), не працавала , займалася сям'ёй, была добрай гаспадыняй.

Выхаваннем Георгія Сцяпанавіча займалася бабуля Марыя Палікарпаўна Елінецкая, у якой была хатняя бібліятэка ў 5 тысяч даволі рэдкіх кніг. Ужо ў чатыры гады хлопчык умеў чытаць.

Перад пачаткам другой сусветнай вайны ў 1939г. Георгій Сцяпанавіч скончыў першы клас Дзмітравіцкай польскай школы , пазней – два класы Дзмітравіцкай рускай школы. У 1941 годзе сям'я пераязджае ў Камянец. З 1944 года Георгій Сцяпанавіч вучань чацвёртага класа Камянецкай рускай школы , а праз месяц вучобы пераведзены ў пяты клас.

Георгій Сцяпанавіч яшчэ ў школе праявіў сябе як актыўная, творчая асоба, быў намеснікам рэдактара школьнай газеты, прымаў удзел у драматычным гуртку, граў у струнным ансамблі. У 1948 годзе з сябрамі арганізаваў першую раённую спартакіяду школьнікаў. Юнак займаўся шматлікімі відамі спорта. Пасля заканчэння школы паступае ў Мінскі інстытут фізічнай культуры. Скончыўшы яго, працуе пяць гадоў настаўнікам фізкультуры ў сярэдняй школе г. Высокае. З 1959г. Георгій Сцяпанавіч - дырэктар дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы "Пушча", якая была лепшай у Беларусі сярод раённых спартыўных школ.

Георгій Сцяпанавіч актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю, выконваў абавязкі пазаштатнага інспектара Камянецкага аддзела адукацыі, пятнаццаць гадоў з'яўляўся старшым трэнерам зборных каманд Брэсцкага АБЛАНА па кіданню.

Ім распрацавана больш за пяцьдзесят метадычных дапаможнікаў па фізкультуры і спорце. Звыш ста выхаванцаў Георгія Сцяпанавіча Мусевіча атрымалі прафесію настаўніка, трэнера.

У 1960 годзе Георгій Сцяпанавіч прымаў удзел у рабоце II з’езда настаўнікаў Беларусі.

За сваю працу ён удастоены званняў “Выдатнік народнай адукацыі БССР”, “Выдатнік асветы СССР”, узнагаоджаны медалём “За працоўную доблесць”. У 1991 годзе яму прысвоена званне “Заслужаны трэнер Беларусі”.

З 1990 года Георгій Сцяпанавіч займаецца вывучэннем гісторыі роднага краю. Яго артыкулы расказваюць аб малавядомых людзях Камянецкай зямлі, аб духоўна-асветніцкім жыцці краю, гісторыі вёсак Камянеччыны, фізкультуры і спорце. Піша краязнавец на рускай, украінскай, польскай, беларускай мовах.

Краязнаўца падрыхтаваў звыш пяцісот артыкулаў: “Адзін з старажытных храмаў Камянца”, “Духоўнае багацце”, “Кладезь духоўнасці” , “Пра лёс чалавека”, “Благавест званоў ад Жукава”, “Пісьменнік, які нарадзіўся ў Камянцы” і іншыя. Друкаваліся артыкулы ў рэспубліканскім, раённым друку , а таксама у друку Украіны, Польшчы, Англіі.

Шмат увагі надае Георгій Сцяпанавіч гісторыі Камянецкага краю. Ім напісаны рукапісы: “Сказанне аб зямлі Камянецкай”, “Хто мы і адкуль”, “Народ, які жыў сярод нас”, “Правіцелі Камянца-Літоўскага”, “Жыціе Благавернага і Набожнага князя Волынского Владіміра Іоана Васількавіча” і шм. інш.

У Гайнаўцы (Польшча) у часопісее “Па-суседску” на польскай мове надрукавана кніга Георгія Сцяпанавіча “Жыццё і смерць апошняга польскага караля”. У 2006 годзе Георгій Сцяпанавіч прыняў удзел у праекце “Забытых таямніцаў чар”, арганізаваным аб’яднаннем “Музей і цэнтр беларускай культуры” у Гайнаўцы пад патранажам Еўрарэгіёна “Белавежская пушча”. Вынікам праекта стала кніга “Забытых таямніцаў чар” пад рэдакцыяй Наталлі Герасімюк на беларускай і польскай мовах. У кнізе надрукаваны легенды, сабраныя краязнаўцам на Камянеччыне.

Георгій Сцяпанавіч цесна супрацоўнічае з Камянецкай раённай бібліятэкай імя У. М. Ігнатоўскага, удзельнічае ў шматлікіх бібліятэчных мерапрыемствах. Краязнаўца перадаў у дар бібліятэцы свае гісторыка-краязнаўчыя рукапісы. Ён прымае актыўны удзел у грамадскім і духоўным жыцці г. Камянца, падтрымлівае сувязі з цікавымі, неардынарнымі людзьмі з Беларусі, Украіны, Польшчы, Канады, ЗША, Аргенціны, Англіі. Да яго звяртаюцца з пытаннямі па гісторыі роднага краю навучэнцы школ, студэнты, дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі (“Халакост”, “Мемарыял”, “Зов”).

Георгій Сцяпанавіч Мусевіч ўлюблёны ў свой край, у Камянецкую зямлю і яна адказвае яму тым жа.

**Георгій Мусевіч** – **аўтар кніг «Мой горад» (1996), «Жыццё і смерць апошняга польскага караля» (1998 -2005), «Народ, который жил среди нас» (2009).**









## Літаратура:


Мусевич Георгий Степанович // Кто есть кто в Республике Беларусь. Люди дела / [под ред. И. В. Чекалова]. – Мн.: Энциклопедикс, 1999. – С. 224.

Мусевич Георгий Степанович // Кто есть кто в Республике Беларусь. 2005. / [под ред. И. В. Чекалова, автор-составитель А. И. Котов]. – Мн.: ООО «Мэджик-Бук», 2005. – Т. 2. - С. 242.

Памяць: Камянецкі раён: Гіст.- дак. Хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі.- Мінск: Ураджай, 1997. – С. 491.

Павлова, Л. Поиск истины. Восьмой десяток лет ведёт Георгий Мусевич // Брестский курьер. – 2011.- 2 июня. – С. 21.

Мусевіч, Г . Мой родовод // Бельскі гостінэць: краязнаўча-культурны часопіс. – 2008. -№11. – С. 32. – 41.

Путеводитель по старому Каменцу: [Книга Г. Мусевича «Мой город»] // Веч. Брест. – 1997. - 10 января.



# Святлана Курылёва

*беларуская пісьменніца*

нар. у 1928 годзе

**Святлана Курылёва**
**(нар. у 1928 годзе)**

Вядомая на Брэстчыне пісьменніца і публіцыст Курылёва Святлана Леанідаўна нарадзілася 25 красавіка 1928г. у горадзе Жытоміры (Украіна) у сям'і ваеннаслужачага. У 1950г. скончыла расійскае аддзяленне філалагічнага факультэта Харкаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. 22-гадовая выпускніца Харкаўскага універсітэта згадзілася ехаць у Беларусь, дзе не хапала педагогаў. У Брэсце, гледзячы на карту, выбрала незвычайна прыгожую назву гарадка –Камянец. Аказалася, назаўжды. Камянец стаў яе лёсам і прыстанкам. Тут выйшла замуж за маладога ўрача. Гарадской дзяўчыне сталі блізкімі вясковыя людзі, немудрагелістасць іх думак і жыцця. З часам прыйшло сапраўднае стаўленне настаўніка- майстра і мастака.

Друкавацца пачала ў 1952 годзе ў абласных, рэспубліканскіх, саюзных газетах і часопісах. Піша на рускай мове. У 60-80 гады выдадзены зборнікі апавяданняў “Жаворонки на улице”, “И нелегко, и непросто»,“Самый короткий день”, “Дефектная ведомость”.

Творам пісьменніцы уласцівы душэўная паэтычнасць, натхненне, асаблівая патаемнасць, здольнасць бачыць дэталі ў час стварэння агульнай карціны. У яе нарысах мы пазнаем людзей з Камянца і наваколля, здзіўляючыся таму, што іменна яны сталі героямі твораў.

Пісала Святлана Леанідаўна аб вядомым старшыні калгаса Уладзіміру Бядулі, цікавая кніга – дыялог з дырэктарам саўгаса-камбіната “Белавежскі” Юрыем Марозам. Але часцей пісала яна аб людзях рабочых прафесій, аб маладых інтэлігентах-правінцыялах: настаўніках, урачах. С. Л. Курылёва – пісьменнік-рэаліст і пісьменнік–рамантык. У яе творах – нашы сучаснікі, з чыстымі думкамі і пачуццямі, з прыстойнымі ўчынкамі. Але ім ў жыцці вельмі не проста.

Сваёй творчасцю яна дапамагла нам пачуць і зразумець час 50-80 гадоў, улавіць пульс таго часу калі ставіліся і вывучаліся новыя праблемы, з’яўляліся новыя героі.

У апошні час пісьменніца выступае выключна ў ролі публіцыста, супрацоўнічае з абласнымі і рэспубліканскімі газетамі. У пісьменніцкім стале Святланы Леанідаўны – шмат рукапісаў: раманаў, аповесцяў, апавяданняў, п’ес, казак для дзяцей, якія, верыцца, будуць надрукаваны ў выдавецтве і знойдуць дарогу да чытача.

**Светлана Курылёва** – аўтар зборнікаў апавяданняў «Жаворонки на улице» (1965), «И нелегко и непросто» (1975), зборнік нарысаў «Формула успеха» (1979), аповесцяў «Дні председателя» (1980), «Доброта» (1983) і інш.












## Літаратура:

Курылёва Святлана Леанідаўна // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / Рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш. – Мн.: БелЭн, 1996. –Т. 9 . – С. 55.

Курылёва Светлана Леонидовна // Кто есть кто в Республике Беларусь. 2005. / [под ред. И. В. Чекалова, автор составитель А.И. Котов]. – Мн.: ООО «Мэджик-Бук», 2005. – Т. 2. - С. 192.

Курылёва Святлана Леанідаўна // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / Рэдкал.: І. П. Шамякін (гал.рэд) і інш. – Мн.: Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1985. Т. 3.– С. 182.

Крэчка, Г. Яе героі жывуць побач з намі: [Пісьменніцы Святлане Леанідаўне Курылёвай - 75] // Нав. Камянеччыны.- 2003. – 23 красавіка.

Кускевіч, І.  Формула поспеху: [аб кнізе С. Курылёвай «Формула Поспеху»]// Ленінец. – 1980. – 3 студзеня



# Ніна Гарагляд

*беларуская паэтка*

нар. у 1952 годзе

**Ніна Гарагляд**
**(нар. у 1952 годзе)**

Быццам імклівая ластаўка, на мяжы 60-70 х гадоў паднялася ў прасторы беларускай паэзіі зусім юная дзяўчына паляшучка Ніна Гарагляд. Яе заўважылі адразу, прынялі і падтрымалі яе шчырую песню.

Ніна Гарагляд нарадзілася 20 лютага 1952 года ў мнагадзетнай сям'і на хутары Паўлінава Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Рана засталася без бацькі, выхоўвалася ў Целяханскім дзіцячым доме. У 1969 годзе скончыла Лышчанскую сярэднюю школу, пасля заканчэння якой паступіла на аддзяленне журналістыкі БДУ. Працавала піянерважатай Лышчынскай СШ. У 1970 годзе паступіла ў Брэсцкі педагагічны інстытут на філалагічны факультэт. З 1972 года вяла ўлік пісьмаў на Брэсцкім тэлебачанні і радыё. Лёс Ніны Гарагляд склаўся так, што яна парадніласяся з Камянцам. Два гады працавала настаўніцай, у 1974 годзе стала працаваць літсупрацоўнікам у раённай газеце "Навіны Камянеччыны". З 1976 года была прызначана загадчыцай аддзела пісьмаў і сацыяльных праблем, з 1996 года – намеснікам рэдактара, а затым - рэдактарам раённай газеты.

Член Саюза журналістаў, узначальвала пры раённай газеце літаб'яднанне ў часопісе "Маладосць". У 1979 годзе нізка вершаў была змешчана ў зборніку "Нашчадкі", які выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура". У 1995 годзе выйшла кніга вершаў "Матчыны песня". Друкавалася таксама ў альманасе "Дзень паэзіі", часопісах "Маладосць", "Нёман", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", ў газеце "Рэспубліка", "Звязда", "Заря". Канешне, перш за ўсё Ніна Гарагляд з'яўляецца беларускай паэткай. Усе яе вершы напісаны на беларускай мове. Яны адметны моцным пачуццём, непадробнасцю і прастатой выказвання. Паэтцы ўласцівы даверлівасць да людзей і прыроды, адкрытасць і ранімасць душы. Як і кожны паэт, Н. Гарагляд аддае свайму чытачу самае вялікае, што ў яго ёсць – самога сябе, свае думкі, пачуцці, сэрцам пражытыя дні жыцця.

Увогуле паэтка піша вельмі лірычныя і рамантычныя вершы. Галоўныя іх тэмы: каханне, шчырая любоў да радзімы і вобраз маці. Н. Гарагляд - добры журналіст. Захапляюць сваёй незвычайнасцю і цікавасцю яе артыкулы ў газеце "Навіны Камянеччыны", прысвечаныя паўсядзённым тэмам, аб святах і талентах горада Камянца і Камянецкага раёна, аб сацыяльных і штодзенных праблемах, аб навінах літаратуры і мастацтва. Шмат артыкулаў і апавяданняў Н. Гарагляд пісала ў раздзеле "Літаратурная старонка". Ёсць у журналісткі артыкулы-заклікі да чытачоў, аб вядомых людзях Беларусі. Хвалюе журналістку тэма дзяцей і старых, а таксама Радзіма, уся Беларусь і ў асаблівасці Камянеччына. Яна заклікае нас да свядомасці, заклікае азірнуцца і паглядзець, колькі дзяцей пакінута на вуліцах гарадоў і вёсак Беларусі.

За апошні час у "Навінах Камянеччыны" часта можна было ўбачыць кароткія апавяданні Ніны Гарагляд: "Спыніцца, азірнуцца", "Дажывем да любові", "Як кепскі сон" і інш.

Кожны, хто дакранаецца да невычарпальнага свету гараглядаўскай творчасці, абагачаецца ўнутрана і духоўна, яго жыццё становіцца больш радасным і багатым.

**Ніна Гарагляд** – аўтар вершаў, змешчаных ў зборніку “Нашчадкі” (1979 ), кнігі вершаў “Матчына песня” (1995).






## Літаратура:

Ніна Гарагляд // Літаратурная карта Берасцейшчыны / укл. А. Крэйдзіч.- Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2008. - С. 475 – 476.

Ніна Гарагляд // Літаратурная Берасцейшчына: краязнаўчыя нарысы, партрэты, артыкулы / Ляшук, В. Я. Снітко, Г. М. . – Мінск, 2008. – С. 255.

Жуковіч, В. «Ты балі і плач мая душа…»: [пра кнігу вершаў Н. Гарагляд «Матчына песня»] // Нав. Камянеччыны. – 1997. – 18 чэрв.



# Іван Жытко

*пісьменнік-гумарыст*

**нар. у 1930 годзе**

**Іван Жытко**

**( нар. у 1930 годзе)**

Іван Жытко - гумарыст, што называецца, ад прыроды, ад Бога, пісьменнік па прызванні і па набытым навыку, мае чатыры кнігі гумарэсак і незлічоную колькасць публікацый у розных выданнях – ад раённых да рэспубліканскіх.

Нарадзіўся Іван Андрэевіч Жытко ў 1930 годзе ў вёсцы Гукава Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Працаваў у Камянецкім РАУС участковым упаўнаважаным. Завочна закончыў Вышэйшую школу МУС у Маскве, працаваў супрацоўнікам крымінальнага вышуку, а з 1972 года - начальнікам аддзялення аховы. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Ён выдаў чатыры кнігі гумарэсак пад назвамі “Смех на высадку” (1997),“Прыз” (2001), “І смех і бяда” (2005), “Смех смехам” (2010). Гумарэскі І. Жытко не зблытаеш ні з чыімі. Яны самабытныя, нязмушана-арганічна чуллівыя, добразычлівыя, сяброўскія. Ён не толькі высмейвае, колькі паказвае смешнае ў жыцці і чалавечым характары. Чытаеш немудрагелістыя гісторыі і адразу разумееш: усё сапраўднае. Асаблівы каларыт у тым, што аўтар укладае ў вусны сваіх герояў – простых людзей, якія жывуць побач з намі, - асаблівую гаворку, аздобленную рознымі прыказкамі і прымаўкамі, якія вельмі яскрава характарызуюць сваіх уладальнікаў.

І. А. Жытко ўпэўнены ў жыцці чалавек, надзейны і грунтоўны. Ён бачыць вышэй і шырэй, чым тыя, хто побач, і імкнецца падзяліцца гэтым сваім дарам з іншымі.

**Іван Жытко** - **аўтар кніг “Смех на высадку” (1997),“Прыз” (2001), “І смех і бяда” (2005), “Смех смехам” (2010).**












# Літаратура:

Паталкоў, Ю. Выратаванне смехам: [аб кнізе І Жытко «Смех смехам»] // Народная трыбуна. – 2011. – 21 мая. – С. 11.

Кандрашук, Н. Смех Івана Жытко : [пра творчасць І. Жытко] // ЛІМ. – 2010. – 19 лістапада. – С. 6.

Юшкевіч, Г. Сувязная нітка пакаленняў: [аповяд пра былога начальніка аховы Камянецкага падраздзялення, сёння - старшыню ветэранскай арганізацыі І. А. Жытко] // Нав. Камянеччыны 2010. – 27 кастр. – С. 3.

«Смех смехам» - так называецца чацвёртая па ўліку кніга члена Саюза пісьменнікаў Беларусі І. Жытко, выдадзеная сёлета ў Брэсцкім выдавецтве «Альтэрнатыва» // Нав. Камянеччыны. – 2010. - 7 жніўн. – С. 7.

У сям'і пісьменнікаў – папаўненне : [І. Жытко ў верасні прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі] // Нав. Камянеччыны. – 2008. – 18 кастрычніка. – С. 3.

У гонар юбілею: [аб кнізе І. Жытко «Ахова»] // Нав. Камянеччыны. – 2002. – 30 кастр.

Гарагляд, Н. «Смех на высадку»: [пра зборнік гумарэсак І. Жытко ] // Нав. Камянеччыны. – 1998. – 2 ліп.

## Заключэнне

Апошнім часам з’явілася шмат новых імёнаў мастакоў слова, якія ўсё настойлівей заяўляюць пра сябе. На старонках раённай газеты “Навіны Камянеччыны” выступаюць са сваімі творамі: Г. Новік, С. Харэвіч, Н. Нарэйка, Н. Парчук, В. Пракаповіч, Я. Грыгаровіч, А. Капацкевіч і многія іншыя.

Розных па жыццёвым вопыце, па таленце, па манеры мастацкага самавыяўлення пісьменнікаў Камянеччыны яднае непахісная перакананасць, што сэнс і прыгажосць жыцця – ў захаванні вечных духоўных і маральных каштоўнасцей, у руплівасці дзеля свайго народа і краю.

**Складальнік:** Н. Н. Трафімчук – метадыст 1 кат. аддзела бібліятэчнага маркетынгу ЦРБ імя У. М. Ігнатоўскага.

**Рэдактар :** Г. П. Жэдзік - заг. аддзела бібліятэчнага маркетынгу ЦРБ імя У. М. Ігнатоўскага.

**Камп'ютарная вёрстка і дызайн :** А. В. Буткевіч – бібліятэкар.